*Падрыхтавана*
Кампаніяй “Праваабаронцы за свабодныя выбары”

# ДАПАМОЖНІК

**па маніторынгу выбараў дэпутатаў**
**Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь**

**Мінск 2012 г.**

# Змест

## Уступ

**ПАВАЖАНЫЯ НАЗІРАЛЬНІКІ!**

**Вы з’яўляецеся ўдзельнікамі кампаніі нацыянальнага доўгатэрміновага назірання за парламенцкімі выбарамі ў Беларусі “Правабаронцы за свабодныя выбары”.**
**Гэта каманда аднадумцаў і прафесіяналаў, перакананых у тым, што Беларусь не можа лічыцца прававой дзяржавай, пакуль у ёй не адбываюцца свабодныя і справядлівыя выбары, адпавядаючыя міжнародным стандартам.**
**Мы рады Вас вітаць у нашай камандзе.**
**Менавіта ад працы доўгатэрміновых назіральнікаў залежыць, наколькі наша місія будзе паспяховай. У выніку нашай працы мы зможам зрабіць высновы: ці былі выбары ў Беларусі прыкладам свабоднага волевыяўлення беларускага народу, ці прайшлі з грубейшымі сістэмнымі парушэннямі.**
**Мы не прадстаўляем ніводнага з кандыдатаў, мы баронім права грамадзянаў Беларусі самім абіраць сабе ўладу.**
**Да працы нацыянальных незалежных назіральнікаў ставяцца з вялікай павагай і цікаўнасцю, наша кампанія за часы сваёй працы з 2008 года зарэкамендавала сябе як прафесійная і аб’ектыўная.**
**Да нашых высноваў існуе вялікая ўвага калег з міжнародных місій па назіранні – БДІПЧ АБСЕ, ПА СНД, а таксама амбасадаў, нацыянальных і замежных СМІ. Нашы ацэнкі і выказванні ўважліва аналізуюць і беларускія ўлады.**
**Мы заклікаем Вас быць бесстароннімі, стрыманымі і адказнымі.**
**Кіраўніцтва кампаніі “Праваабаронцы за свабодныя выбары” будзе імкнуцца зрабіць Вашу працу максімальна зручнай і бяспечнай.**

## Кодэкс паводзінаў удзельніка маніторынга

1. Удзельнік маніторынга не можа ўваходзіць у выбарчыя штабы палітычных партый, асобных кандыдатаў, а таксама аказваць любую дапамогу, скіраваную на іх вылучэнне ці агітацыю.
2. Удзельнік маніторынга павінен аформіць свае паўнамоцтвы назіральніка ў парадку, які ўстаноўлены заканадаўствам, мець пры сабе пасведчанне асобы.
3. Удзельнік маніторынга павінен выконваць свае абавязкі падчас усяго перыяду правядзення выбарчай кампаніі, галасавання і правядзення падліку галасоў.
4. Удзельнік маніторынга павінен захоўваць строгую бесстароннасць пры выкананні сваіх абавязкаў і ні ў якім разе не можа выказваць перавагу ў адносінах да партый, кандыдатаў ці адносна якіх-небудзь спрэчных пытанняў, якія ўзнікаюць падчас выбараў.
5. Удзельнік маніторынга павінен выконваць свае абавязкі ў ненавязлівай манеры і не павінен умешвацца ў выбарчы працэс.
6. Удзельнік маніторынга, які мае паўнамоцтвы назіральніка, можа задаваць пытанні прадстаўнікам выбарчых камісій і органаў улады, прыцягваць іх увагу да невыканання заканадаўства, у тым ліку – падаваць скаргі ва ўстаноўленым парадку.
7. Высновы і заключэнні ўдзельніка маніторынга павінны быць заснаваны на асабістых назіраннях ці на выразных і пераканаўчых фактах і доказах.
8. Удзельнік маніторынга не павінен падвяргаць сябе празмернай рызыцы.

*Дадзены Кодэкс распрацаваны дзеля таго, каб паводзіны ўсіх удзельнікаў сістэмы маніторынгу адпавядалі высокім прафесійным і асабістым стандартам.*

## I. Паўнамоцтвы і абавязкі рэгіянальных каардынатараў

Рэгіянальныя каардынатары з’яўляюцца важным звяном сістэмы даўгатэрміновага маніторынга выбарчай кампаніі.
Рэгіянальныя каардынатары дзейнічаюць згодна з Кодэксам паводзінаў назіральніка і сочаць за яго выкананнем падведамаснымі яму назіральнікамі.
***Да пачатку выбарчай кампаніі рэгіянальныя каардынатары:***

- вядуць падбор кандыдатур доўгатэрміновых назіральнікаў з найбольш падрыхтаваных, аб’ектыўных і аўтарытэтных актывістаў;
- узгадняюць з цэнтральным офісам даты і месца правядзення навучальных мерапрыемстваў;
- забяспечвацюць удзел доўгатэрміновых назіральнікаў у навучанні.

***Падчас выбарчай кампаніі рэгіянальныя каардынатары:***

- размяркоўваюць паміж доўгатэрміновымі назіральнікамі тэрыторыю дзейнасці;
- удакладняюць функцыі і задачы доўгатэрміновых назіральнікаў;
- даводзяць да назіральнікаў пастаўленыя задачы і неабходную інфармацыю, аказваюць неабходную дапамогу, каардынуюць і кантралююць іх працу;
- адказваюць за своечасовую і якасную зваротную сувязь паміж цэнтральным офісам і доўгатэрміновымі назіральнікамі з улікам тэхнічных срокаў, якія маюцца ў наяўнасці;
- атрымліваюць справаздачы назіральнікаў і праводзяць іх аналіз;
- **кожны тыдзень** кантралююць адпраўку доўгатэрміновымі назіральнікамі тыднёвых справаздач, згодна з графікам, зацверджаным цэнтральным офісам;
- кантралююць адпраўку доўгатэрміновымі назіральнікамі этапных справаздач;
- у выпадку неабходнасці – удакладняюць і правяраюць дакладнасць і абгрунтаванасць атрыманай інфармацыі і перадаюць яе ў цэнтральны офіс разам з першаснымі матэрыяламі.

## II. Паўнамоцтвы і абавязкі доўгатэрміновых назіральнікаў

Доўгатэрміновыя назіральнікі (ДТН) з’яўляюцца асноўным звяном сістэмы маніторынга выбараў. Дзейнасць ДТН пачынаецца з моманту абвяшчэння выбараў і заканчваецца пасля падвядзення вынікаў галасавання ў выбарчых акругах.

У сваёй дзейнасці ДТН кіруюцца дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і міжнароднымі стандартамі свабодных і справядлівых выбараў, Кодэксам паводзінаў назіральнікаў, даручэннямі і распараджэннямі цэнтральнага офісу і рэгіянальных каардынатараў.

Падчас выбарчай кампаніі ДТН устанаўліваюць кантакты з палітычнымі партыямі, незалежнымі кандыдатамі і іх выбарчымі штабамі, няўрадавымі арганізацыямі, якія маюць адносіны да палітычнага працэсу.

Доўгатэрміновыя назіральнікі ажыццяўляюць маніторынг усіх этапаў выбарчай кампаніі:

- выконваюць арганізацыйныя функцыі на замацаванай за імі тэрыторыі, шукаюць памяшканне, неабходнае для працы па маніторынгу;
- устанаўліваюць кантакты з міжнароднымі назіральнікамі, якія накіраваны ў адпаведны рэгіён (незалежна ад таго, якую краіну і місію яны прадстаўляюць), з мэтай інфармавання пра ход выбарчай кампаніі;
- аналізуюць склад і ацэньваюць эфектыўнасць дзейнасці акруговых і ўчастковых выбарчых камісій, іх незалежнасць ад органаў выканаўчай улады, празрыстасць і бесстроннасць працы;

- праводзяць маніторынг і аналізуюць выкананне выбарчага заканадаўства і ўстаноўленых працэдур падчас вылучэння і рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты;
- праводзяць маніторынг перыяду агітацыі шляхам аналізу: 1) друкаваных агітацыйных матэрыялаў кандыдатаў; 2) агітацыі праз сродкі масавай інфармацыі; 3) правядзення агітацыйных сустрэч з выбаршчыкамі.
- аналізуюць выкананне выбарчага заканадаўства і ўстаноўленых працэдур падчас датэрміновага галасавання і ў дзень выбараў; падчас падвядзення вынікаў выбараў на ўчастках і ў акруговых камісіях.
- аналізуюць дзейнасць органаў дзяржаўнай улады, звязаную з выбарамі;
- сочаць за ўсімі разнагалоссямі, якія ўзнікаюць у сувязі з выбарамі, скаргамі, судовымі разбіральніцтвамі і апеляцыямі; ацэньваюць, наколькі эфектыўнымі з’яўляюцца сродкі судовай абароны пры разглядзе скаргаў, звязаных з выбарамі.
- **кожны тыдзень** ДТН прадстаўляюць тыднёвыя справаздачы, у якіх коратка павінны быць выкладзены вынікі назірання за бягучы перыяд. Асабліва важная ці тэрміновая інфармацыя павінна паведамляцца **неадкладна**;
- у тэрміны, вызначаныя цэнтральным офісам, прадстаўляюць этапныя справаздачы;
- працуюць ва ўзаемадзеянні з рэгіянальнымі юрыстамі і журналістамі місіі.

## III. Прававое рэгуляванне дзейнасці назіральнікаў

У Артыкуле 13 Выбарчага кодэкса замацавана: падрыхтоўка і правядзенне выбараў Прэзідэнта, дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, членаў Савета Рэспублікі, дэпутатаў мясцовых Саветаў, рэферэндума, адкліканне дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, дэпутата мясцовага Савета адбываюцца **адкрыта і галосна**. Прысутнасць пры правядзенні выбарчых працэдур назіральнікаў – адна з форм забеспячэння адкрытасці і галоснасці выбарчага працэса.

Кола суб’ектаў, якія маюць права назіраць за правядзеннем выбараў, працэдура афармлення паўнамоцтваў назіральнікаў, іх правы і абавязкі вызначаюцца Выбарчым кодэксам (ВК) і Пастановамі Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў (ЦВК).

**1. Хто можа выступаць у якасці назіральнікаў? (Артыкул 13 ВК)**

- дэпутаты Палаты прадстаўнікоў
- члены Савета Рэспублікі
- дэпутаты мясцовых Саветаў
- давераныя асобы кандыдатаў (у прэзідэнты, у дэпутаты)
- кандыдаты ў дэпутаты – толькі на этапе падліку галасоў на выбарчым участку
- члены палітычных партый
- члены грамадскіх аб’яднанняў
- члены працоўных калектываў
- прадстаўнікі грамадзянаў
- замежныя (міжнародныя) назіральнікі
- прадстаўнікі СМІ (у парадку, устаноўленым Цэнтральнай камісіяй).

**2. Хто мае права назіраць без папярэдняга паведамлення?**

- дэпутаты Палаты прадстаўнікоў
- члены Савета Рэспублікі
- давераныя асобы кандыдатаў у дэпутаты

- дэпутаты мясцовых Саветаў у камісіях і на ўчастках для галасавання, якія размешчаны на тэрыторыі той адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, у склад мясцовага Савета якой яны абраны;
- прадстаўнікі СМІ (у парадку, устаноўленым Цэнтральнай камісіяй).

Указаныя асобы могуць ажыццяўляць назіранне на паседжаннях выбарчых камісій і на ўчастках для галасавання без папярэдняга паведамлення, прадставіўшы выбарчым камісіям дакумент, які пацвярджае іх статус.

**3. Парадак накіравання назіральнікаў**

Рэгуляванне парадку накіравання назіральнікаў, вызначэнне правіл афармлення іх паўнамоцтваў адносяцца да кампетэнцыі Цэнтральнай камісіі. Пры гэтым ЦВК не мае права змяняць і карэктаваць палажэнні выбарчага заканадаўства.

*Згодна з папярэдняй практыкай, Цэнтральная камісія прымае Пастановы з растлумачэннем прымянення выбарчага заканадаўства толькі пасля пачатку выбарчай кампаніі, таму ў дадзеным Дапаможніку будзе прааналізаваная практыка дзейнасці назіральнікаў на апошніх парламенцкіх выбарах у адпаведнасці з Пастановай ад 24 красавіка 2008 года “Аб парадку прымянення артыкула 13 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь дваццаць пятага склікання”. Можна чакаць, што падобныя правілы будуць ужывацца і падчас выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у 2012 годзе.*

**3.1. Накіраванне назіральнікаў палітычнымі партыямі і грамадскімі аб’яднаннямі**

Палітычная партыя і іншае грамадскае аб’яднанне можа накіраваць на паседжанне адпаведнай выбарчай камісіі, на ўчастак для галасавання аднаго назіральніка, а з папярэдняй згоды камісіі – і болей.

Назіральнікам ад грамадскага аб’яднання, палітычнай партыі можа быць не толькі сябра гэтай партыі, аб’яднання, але і любы грамадзянін, які будзе з’яўляцца іх прадстаўніком.

<u>Накіроўваць назіральнікаў маюць права:</u>

- *кіруючыя органы палітычных партый, іншых рэспубліканскіх грамадскіх аб’яднанняў* – на паседжанні ўсіх акруговых выбарчых камісій, участковых выбарчых камісій, участкі для галасавання;
- *кіруючыя органы абласных арганізацыйных структур палітычных партый і іншых грамадскіх аб’яднанняў* – на паседжанні акруговых і ўчастковых выбарчых камісій, на ўчасткі для галасавання, размешчаныя на тэрыторыі вобласці;
- *кіруючыя органы Мінскіх гарадскіх арганізацыйных структур палітычных партый і іншых грамадскіх аб’яднанняў* – на паседжанні акруговых выбарчых камісій, участковых выбарчых камісій, на ўчасткі для галасавання, размешчаныя на тэрыторыі Мінска;
- *кіруючыя органы раённых, гарадскіх арганізацыйных структур палітычных партый і іншых грамадскіх аб’яднанняў* – на паседжанні акруговых, участковых выбарчых камісій, на ўчасткі для галасавання, размешчаныя на тэрыторыі раёна, горада, раёна ў горадзе;
- першасныя арганізацыі палітычных партый і іншых грамадскіх аб’яднанняў – на паседжанні ўчастковых выбарчых камісій, на участкі для галасавання, на тэрыторыі якіх знаходзіцца першасная арганізацыя.

<u>Хто прымае рашэнне аб накіраванні назіральніка?</u>

Рашэнне аб накіраванні палітычнай партыяй, іншым грамадскім аб’яднаннем назіральнікаў на паседжанне выбарчай камісіі, на ўчастак для галасавання прымае адпаведна кіруючы орган арганізацыі альбо яе тэрытарыяльнай арганізацыі, альбо сход

першаснай арганізацыі палітычнай партыі, іншага грамадскага аб’яднання.

Які неабходны дакумент?

Дакументам аб накіраванні назіральніка ад палітычнай партыі, іншага грамадскага аб’яднання з’яўляецца пратакол ці выпіска з пратакола паседжання кіруючага органа палітычнай партыі, іншага грамадскага аб’яднання ці іх арганізацыйных структур, схода першаснай арганізацыі.

У пратаколе ці выпісцы з пратакола ўказваюцца:

1) назва, адрас і нумар тэлефона кіруючага органа палітычнай партыі, іншага грамадскага аб’яднання ці іх арганізацыйных структур;
2) дата прыняцця рашэння;
3) прозвішча, імя, імя па бацьку назіральніка з указаннем таго, што ён з’яўляецца членам палітычнай партыі, іншага грамадскага аб’яднання, якая (якое) яго накіроўвае;
4) месца жыхарства назіральніка;
5) назва камісіі ці нумар участка, куды ён накіроўваецца.

**3.2. Накіраванне назіральнікаў працоўнымі калектывамі**

Працоўныя калектывы арганізацый ці калектывы іх структурных падраздзяленняў, размешчаныя на тэрыторыі вобласці, раёна, горада, раёна ў горадзе, маюць права накіроўваць назіральнікаў на паседжанні адпаведных акруговых, тэрытарыяльных і ўчастковых выбарчых камісій, на ўчасткі для галасавання.

Працоўныя калектывы арганізацый ці калектывы іх структурных падраздзяленняў могуць накіраваць на паседжанне адпаведнай выбарчай камісіі, на ўчастак для галасавання аднаго назіральніка, а з папярэдняй згоды камісіі – і болей.

Хто прымае рашэнне аб накіраванні назіральніка?

Рашэнне аб накіраванні працоўным калектывам арганізацыі ці яе структурным падраздзяленнем назіральнікаў на паседжанне выбарчай камісіі, на ўчастак для галасавання прымае сход (канферэнцыя) працоўнага калектыва ці сход структурнага падраздзялення арганізацыі.

Які неабходны дакумент?

Дакументам аб накіраванні назіральніка ад працоўнага калектыва арганізацыі, яе структурнага падраздзялення з’яўляецца пратакол ці выпіска з пратакола схода (канферэнцыі) працоўнага калектыва, структурнага падраздзялення.

У пратаколе ці выпісцы з пратакола ўказваюцца:

1) назва, адрас і нумар тэлефона арганізацыі;
2) дата прыняцця рашэння;
3) прозвішча, імя, імя па бацьку назіральніка з указаннем таго, што ён з’яўляецца членам працоўнага калектыва арганізацыі, якая яго накіроўвае;
4) месца жыхарства назіральніка;
5) назва камісіі ці нумар участка, куды ён накіроўваецца.

**3.3. Накіраванне назіральнікаў групай выбаршчыкаў**

Група выбаршчыкаў шляхам падачы заявы можа накіраваць назіральніка, які пражывае на тэрыторыі выбарчай акругі, участка для галасавання, на паседжанне адпаведнай акруговай ці ўчастковай выбарчай камісіі, на ўчастак для галасавання.

Група выбаршчыкаў можа накіраваць на паседжанне адпаведнай выбарчай камісіі, на ўчастак для галасавання аднаго назіральніка, а з папярэдняй згоды камісіі – і болей.

Колькі трэба подпісаў выбаршчыкаў?

Пры накіраванні назіральніка на паседжанні акруговай, участковай выбарчай камісіі заява павінна быць падпісана **не меней чым 10 выбаршчыкамі**, што пражываюць адпаведна на тэрыторыі выбарчай акругі, выбарчага ўчастка.

Які неабходны дакумент?

Дакументам аб накіраванні назіральніка з’яўляецца заява групы выбаршчыкаў, у якой указваюцца:

1) прозвішча, імя, імя па бацьку назіральніка;
2) месца жыхарства назіральніка;
3) назва камісіі ці нумар участка, куды ён накіроўваецца;
4) прозвішча, імя, імя па бацьку і месца жыхарства кожнага выбаршчыка, які падпісаў заяву.

Увага! Дакумент аб накіраванні назіральніка сапраўдны пры прад’яўленні назіральнікам пашпарта ці пасведчання асобы, якое яго замяняе.

**4. Парадак акрэдытацыі назіральнікаў**

Дакумент аб накіраванні назіральніка на паседжанне выбарчай камісіі, на ўчастак для галасавання прадстаўляецца ў адпаведную выбарчую камісію, на ўчастак для галасавання. З моманту прадстаўлення дакумента, які падцвярджае паўнамоцтвы назіральніка, ён можа пачаць назіранне.

Назіральнікі, накіраваныя на паседжанні выбарчых камісій, на ўчасткі для галасавання, акрэдытуюцца пры адпаведных выбарчых камісіях шляхам унясення запісу ў журнал акрэдытацыі назіральнікаў. У журнале ўказваюцца:

1) дата паступлення дакумента аб накіраванні назіральніка;
2) прозвішча, імя, імя па бацьку назіральніка;
3) звесткі пра тое, якой арганізацыяй ці групай грамадзян накіраваны назіральнік.

*Пры падачы дакументаў назіральнік павінен пераканацца ў тым, што ягоныя дакументы зарэгістраваны.*

| |
|---|
| Рэгіянальныя каардынатары і доўгатэрміновыя назіральнікі павінны выкарыстоўваць усе магчымасці для афармлення паўнамоцтваў назіральнікаў у акруговых камісіях, каб мець магчымасць непасрэдна атрымаць інфармацыю пра іх працу. |

**5. Правы назіральнікаў (Артыкул 13 ВК):**

Практыка прымянення Артыкула 13 паказвае, што выбарчыя камісіі схільны вырываць пералік правоў назіральнікаў з кантэксту артыкула і выкарыстоўваць яго абмежавальна, трактуючы яго змест наступным чынам: назіральнікі маюць толькі тыя правы, якія прадугледжаны дадзеным артыкулам. Нярэдка рэалізацыя ў тым ліку і пералічаных правоў ускладняецца з-за забаронаў з боку выбарчых камісій, аднак назіральнік мае права і павінен у карэктнай форме патрабаваць прадстаўлення вызначаных законам магчымасцяў, адзначаючы адмову ў іх рэалізацыі як парушэнне.

| **Назіральнік мае права** | **Назіральнік НЕ мае права** |
|---|---|
| 1. прысутнічаць на паседжаннях адпаведных камісій*****;<br>2. прысутнічаць пры пламбіраванні ці апячатванні скрыняў для галасавання;<br>3. знаходзіцца ў дзень галасавання ў памяшканнях для галасавання з моманту пламбіравання ці апячатвання скрыняў для галасавання да заканчэння падвядзення вынікаў галасавання******;<br>4. прысутнічаць пры датэрміновым галасаванні, галасаванні па месцы знаходжання грамадзян, правядзенні | ■ займацца агітацыяй у любой яе форме;<br>■ аказваць кандыдатам у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, у члены Савета Рэспублікі, у дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў якую-небудзь інфармацыйную, метадычную, фінансавую ці іншую дапамогу;<br>■ ствараць перашкоды ў правядзенні галасавання;<br>■ прадпрымаць дзеянні, якія парушаюць таямніцу галасавання; |

| | |
|---|---|
| паўторнага падліку галасоў грамадзян**;<br>5. назіраць за выдачай бюлетэняў, ходам галасавання, выкананнем устаноўленага Выбарчым кодэксам парадку галасавання;<br>6. звяртацца з прапановамі і заўвагамі па пытаннях арганізацыі галасавання да старшыні ўчастковай, лічыльнай камісіі ці да яго намесніка;<br>7. атрымліваць інфармацыю пра вынікі падліку галасоў і складанне пратаколаў адпаведных камісій пра вынікі выбараў;<br>8. знаёміцца з пратаколамі ўчастковых камісій аб выніках галасавання і пратаколамі адпаведных камісій аб выніках выбараў, падпісанымі і накіраванымі ў вышэйстаячую камісію згодна з Выбарчым кодэксам***;<br>9. вырабіць копію пратакола ўчастковай камісіі аб выніках галасавання сваімі сіламі і сродкамі****. | ■ весці апытанні грамадзян, якія прыбылі для галасавання, і прагаласаваўшых;<br>■ запаўняць за грамадзяніна па ягонай просьбе бюлетэнь;<br>■ ствараць перашкоды для нармальнай працы камісій, паседжанняў дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню вобласці, дэпутатаў Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў і правядзення галасавання;<br>■ знаходзіцца побач са сталамі выдачы бюллетэняў, каля кабін і скрыняў для галасавання;<br>■ умешвацца ў працу камісій, паседжанняў дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню вобласці, дэпутатаў Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў. |

**назіральнік мае права прысутнічаць* <u>*на ўсіх*</u> *калегіяльных мерапрыемствах выбарчых камісій;*
***фармальная прысутнасць у памяшканні, дзе праводзяцца выбарчыя працэдуры, без рэальнай магчымасці бачыць і чуць тое, што адбываецца, неабходна расцэньваць як недапушчальнае абмежаванне прынцыпа празрыстасці і галоснасці правядзення выбараў;*
**** права знаёміцца з дакументамі, якія маюць адносіны да выбарчага працэсу, уключае таксама права рабіць выпіскі, фотаздымкі гэтых дакументаў, капіраваць іх любымі даступнымі назіральніку спосабамі;*
***** на пракыцы гэтае права зводзіцца да дазволу назіральнікам капіраваць выніковыя пратаколы тэхнічнымі сродкамі, якімі яны валодаюць (ксеракс, фотаздымач, камера мабільнага тэлефона і г.д.), альбо перапісаць змест ад рукі. Адсутнасць патрабавання да камісій завяраць сапраўднасць скапіраванай інфармацыі сваімі подпісамі і пячаткамі значна зніжае доказную каштоўнасць не завераных такім чынам копій.*

<u>**Варта памятаць**</u>: *пры ажыццяўленні назірання на ўчастках для галасавання, якія створаны ў бальніцах і іншых стацыянарных лячэбна-прафілактычных установах, назіральнікі павінны выконваць вызначаныя ў дадзеных установах правілы.*

Увага! Паўнамоцтвы назіральніка ва ўчастковай камісіі і на ўчастку для галасавання спыняюцца пасля падвядзення вынікаў падліку галасоў на ўчастку, а ў астатніх выбарчых камісіях – пасля падвядзення вынікаў выбараў.

### 6. Дзеянні назіральнікаў пры выяўленні парушэнняў

Згодна з Артыкулам 49 ВК, пры выяўленні парушэнняў патрабаванняў Выбарчага кодэкса і іншых актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь назіральнікі маюць права звярнуцца з заявай аб спыненні парушэння ў адпаведную ці вышэйстаячую камісію, да пракурора альбо скласці пра гэта акт, які падпісваецца асобай, што выявіла парушэнне. Заява ці акт, якія пададзены ў камісію, падлягаюць абавязковай рэгістрацыі і разгляду.

Заявы пра парушэнні, якія паступілі ў камісіі і дзяржаўныя органы ў перыяд падрыхтоўкі да выбараў ці пасля выбараў, павінны разглядацца ў трохдзённы тэрмін, а якія паступілі ў дзень выбараў – неадкладна. У выпадку, калі факты, якія ўтрымліваюцца ў заявах, патрабуюць праверкі, рашэнні па іх прымаюцца не пазней чым у дзесяцідзённы тэрмін. Пры гэтым вышэйстаячая камісія мае права сама прыняць рашэнне па сутнасці заявы і па пытанні, аднесеным Выбарчым кодэксам да кампетэнцыі ніжэйстаячай камісіі.
Важна памятаць, што заяўнік у адпаведнасці з арт 49-1 ВК Рэспублікі Беларусь мае права знаёміцца з матэрыяламі, якія звязаны з разглядам яго звароту. Такім правам трэба абавязкова карыстацца, асабліва, калі па звароту прынята адмоўнае рашэнне.
Скаргі на рашэнні камісій разглядаюцца толькі на паседжанні камісіі. Такое паседжанне павінна быць правамоцным. Такім чынам, рашэнні ад імя камісіі, якія прыняты не на яе паседжанні, груба парушаюць прынцып калегіяльнасці прыняцця рашэнняў і таму не з’яўляюцца правамоцнымі.

**Незалежнае назіранне** не ставіць задачу актыўна дабівацца ўзнаўлення парушаных правоў кандыдатаў у выбарчай кампаніі ці змагацца за выкананне выбарчага заканадаўства, але, тым не меньш, калі доўгатэрміновыя назіральнікі падчас маніторынгу выяўляюць грубыя парушэнні выбарчага заканадаўства і правоў удзельнікаў выбараў, яны маюць права звярнуцца ва ўстаноўленым парадку да кампетэнтых органаў з адпаведнымі заявамі.
Таксама ў непасрэдную кампетэнцыю рэгіянальных юрыстаў адносіцца юрыдычная дапамога ўсім суб’ектам, чые выбарчыя правы былі парушаны.
У гэтых выпадках неабходна кіравацца **наступным алгарытмам дзеянняў**:

1) скласці акт па дадзеным факце з указаннем неабходных дэталяў (дзе, калі, кім і якія канткрэтна здзейснены дзеянні, а таксама ўказаць сведак і, па магчымасці, заверыць акт іх подпісамі);
2) падаць на імя старшыні адпаведнай выбарчай камісіі ці дзяржаўнага органа заяву аб выяўленым парушэнні;
3) апісаць дадзеныя падзеі ў адпаведным раздзеле маніторынга;
4) паведаміць пра дадзены факт у цэнтральны офіс місіі і перадаць копіі складзеных дакументаў.

## IV. Грамадска-палітычны пашпарт акругі

Ацэнка таго, наколькі выбары адпавядаюць разуменню свабодных і справядлівых, не будзе аб’ектыўнай без уліку грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне і ў асобных акругах, на фоне якой праводзіцца выбарчая кампанія, без уліку агульнага становішча з выкананнем такіх важных правоў чалавека, як свабода слова, сходаў, асацыяцый.
Сур’ёзны адбітак на правядзенне выбараў пакідае ўзровень даверу грамадзян да судовай сістэмы дзяржавы, да іншых інстытутаў і органаў дзяржаўнай улады і кіравання, наяўнасць ці адсутнасць у краіне атмасферы страху перад магчымымі рэпрэсіямі ў выпадку праяўлення пазіцый, якія не супадаюць з пазіцыямі ўладаў. Таму важнай часткай маніторынга выбарчай кампаніі з’яўляецца складанне “грамадска-палітычнага пашпарта акругі”.

**Грамадска-палітычны пашпарт акругі**

1) наяўнасць ці адсутнасць на тэрыторыі выбарчай акругі недзяржаўных СМІ ці іншых крыніц інфармацыі, незалежных ад уладаў, магчымасцяў для іх распаўсюду ______________________________________________________________________________________________________________________________________________

2) наяўнасць ці адсутнасць на тэрыторыі выбарчай акругі арганізацыйных падраздзяленняў апазіцыйных і незалежных структур, якія ўдзельнічаюць у выбарчым працэсе

______________________________________________________________________________
________________________________________________________
__________________________________________________________________

3) якая склалася на тэрыторыі выбарчай акругі практыка правядзення агітацыйна-масавых мерапрыемстваў

______________________________________________________________________________
________________________________________________________
__________________________________________________________________

4) залежнасць выбаршчыкаў ад мясцовых адміністрацый у сувязі з наяўнасцю “горадаўтваральных” прадпрыемстваў, кантрактнай сістэмы найму і г.д.

______________________________________________________________________________
________________________________________________________
__________________________________________________________________

5) улік іншых фактараў, якія аказваюць уплыў на магчымасць правядзення свабодных і справядлівых выбараў

______________________________________________________________________________
________________________________________________________
__________________________________________________________________

*Складанне такога аналізу варта пачынаць яшчэ да пачатку непасрэдна выбарчай кампаніі на падставе матэрыялаў праваабарончых арганізацый, паведамленняў СМІ, вынікаў адпаведных маніторынгаў, скаргаў ахвяраў парушэнняў правоў чалавека і іншых крыніц.*
*<u>Грамадска-палітычны пашпарт выбарчай акругі неабходна прадставіць у цэнтральны офіс на працягу 10 дзён ад пачатку выбараў.</u>*

## V. Абвяшчэнне выбараў

Выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь пачынаюцца з моманту іх абвяшчэння Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**1. Прызначэнне даты правядзення выбараў**
У адпаведнасці з арт. 56 Выбарчага кодэкса, выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў новага склікання павінны быць прызначаны не пазней за чатыры месяцы, а праведзены – не пазней за 30 дзён да сканчэння паўнамоцтваў дэпутатаў папярдняга склікання.
Выбары ў Палату прадстаўнікоў прызначаюцца Указам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Верагоднай датай правядзення парламенцкіх выбараў 2012 года лічыцца 23 верасня.

**2. Калі пачынаецца маніторынг выбараў?**

Маніторынг пачынаецца з моманту апублікавання ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі, афіцыйнага абвяшчэння па радыё ці тэлебачанні Указа прэзідэнта аб правядзенні чарговых выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў.

Абапіраючыся на дату 23 верасня, можна прагназаваць, што выбары будуць прызначаны ў першай палове чэрвеня 2012 года. Менавіта з гэтага моманту пачынаецца праца Цэнтральнай камісіі, іншых дзяржаўных органаў па падрыхтоўцы да правядзення выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў.

Адным з асноўных дакументаў, які ў першую чаргу размяшчаецца на сайце Цэнтральнай камісіі (www.rec.gov.by), з’яўляецца **Каляндар выбарчай кампаніі**. У дадатку да дадзенага Дапаможніка змешчаны Каляндарны план, сыходзячы з даты выбараў 23.09.2012 г. У выпадку, калі будзе іншая дата выбараў, дадзены Каляндар не можа быць выкарыстаны, і неабходна будзе кіравацца выключна Каляндарным планам, змешчаным на афіцыйным сайце Цэнтральнай камісіі.

**3. Дзеянні ўдзельнікаў маніторынга**

Адразу пасля абвяшчэння выбараў доўгатэрміновыя назіральнікі разам з рэгіянальнымі юрыстамі і журналістамі ў абавязковым парадку праводзяць тэрміновую нараду з мэтай абмеркавання каардынацыі дзеянняў і працы, а таксама наладжвання сталай сувязі як паміж сабой, так і з цэнтральным офісам назірання.

Доўгатэрміновыя назіральнікі адсочваюць Пастановы, якія прымае і размяшчае на сваім сайце Цэнтральная камісія. Як правіла, адна з першых Пастаноў датычыць парадку вылучэння назіральнікаў, іх правоў і абавязкаў.

Доўгатэрміновыя назіральнікі загадзя падпісваюцца на рэгіянальныя (раённыя, абласныя) і нацыянальныя перыядычныя выданні на перыяд з чэрвеня па верасень 2012 года ўключна. Падчас усёй выбарчай кампаніі праводзіцца сталы маніторынг мясцовай прэсы на наяўнасць матэрыялаў з элементамі перадвыбарчай агітацыі, іншых матэрыялаў, датычных выбарчай кампаніі, асабліва калі яны выходзяць у выглядзе афіцыйных рашэнняў мясцовых органаў улады.

Доўгатэрміновыя назіральнікі знаёмяцца з магчымымі выбарчымі штабамі дэмакратычных кандыдатаў, а таксама, па магчымасці, з іншымі кандыдатамі, з рэгіянальнымі штабамі партый і груп, якія прынялі рашэнне пра байкот выбараў. Абумоўліваецца атрыманне аператыўнай інфармацыі пра іх удзел у выбарчай кампаніі. У наладжванні такой сувязі дапамогу аказваюць як рэгіянальныя каардынатары, так і цэнтральны офіс.

Неабходна даведацца кантакты ідэалагічных аддзелаў выканаўчых камітэтаў (адміністрацый раёнаў), на якія, як правіла, ускладаецца адказнасць за правядзенне выбараў на ўсіх этапах, паколькі не выключана неабходнасць кантактавання з іх кіраўнікамі.

## VI. Фармаванне акруговых выбарчых камісій

У адпаведнасці з беларускім выбарчым заканадаўствам, падрыхтоўку і правядзенне выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў забяспечваюць: 1) Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў; 2) акруговыя выбарчыя камісіі; 3) участковыя выбарчыя камісіі.
Акруговыя выбарчыя камісіі фармуюцца на тэрыторыях выбарчых акругаў. Падчас правядзення выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў уся тэрыторыя Рэспублікі Беларусь падзяляецца на 110 выбарчых акругаў, адпаведна, сколькі ж дзейнічае акруговых выбарчых камісій.

**1. Утварэнне выбарчых акругаў**
У адпаведнасці з арт.16 Выбарчага кодэкса, выбарчыя акругі ўтвараюцца Цэнтральнай камісіяй па вызначэнні абласных і Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў. На практыцы “нарэзка” выбарчых акругаў знаходзіцца ў выключнай кампетэнцыі мясцовых выканаўчых органаў улады і праводзіцца задоўга да мяркуемай даты выбараў.

Цэнтральная камісія не пазней, чым на пяты дзень пасля прызначэння даты выбараў Указам прэзідэнта, павінна апублікаваць спіс 110 выбарчых акругаў з пазначэннем іх межаў. Гэта інфармацыя таксама друкуецца мясцовай афіцыйнай прэсай і з’яўляецца першым матэрыялам для маніторынга, паколькі дазваляе прааналізаваць змены акругаў у параўнанні з мінулай парламенцкай выбарчай кампаніяй.

Колькасць выбаршчыкаў у акрузе вызначаецца сыходзячы з колькасці грамадзян, што валодаюць выбарчым правам, якія пражывалі на тэрыторыі выбарчай акругі пры правядзенні апошніх выбараў.

Сярэдняя колькасць выбаршчыкаў вызначаецца Цэнтральнай камісіяй не пазней чым за пяць месяцаў да сканчэння паўнамоцтваў дэпутатаў дзеючай Палаты прадстаўнікоў. Гэта лічба не агучваецца загадзя і становіцца публічнай толькі пасля фармавання выбарчых акругаў.
Падчас папярэдніх выбараў прыблізная колькасць складала ад 57 000 да 70 000 выбаршчыкаў на тэрыторыі адной выбарчай акругі. Адхіленне колькасці выбаршчыкаў у акругах не павінна адрозніваца больш чым на 10% ад сярэдняй колькасці выбаршчыкаў на акругу па краіне.
Удзельнікі маніторынга пасля апублікавання інфармацыі пра фармаванне выбарчых акругаў павінны прааналізаваць, ці адпавядае колькасць выбаршчыкаў у акругах на іх тэрыторыях гэтаму патрабаванню, асабліва ўважліва – у тых, дзе вылучаюцца незалежныя кандыдаты. Трэба адзаначыць, што падчас маніторынга за выбарамі 2008 года фіксаваліся выпадкі непрапарцыйнага фармавання выбарчых акругаў.

**2. Парадак фармавання акруговых выбарчых камісій**
Акруговыя камісіі з’яўляюцца прамежкавымі ў сістэме выбараў паміж участковымі, якія непасрэдна арганізуюць працэс галасавання, і Цэнтральнай камісіяй.
Вылучаць сваіх прадстаўнікоў у акруговыя выбарчыя камісіі маюць права:
1) палітычныя партыі і іншыя грамадскія аб'яднанні;
2) грамадзяне шляхам збору подпісаў;
3) працоўныя калектывы.
Палітычная партыя, грамадскае аб’яднанне і працоўны калектыў могуць вылучыць толькі аднаго прадстаўніка ў адпаведную акруговую выбарчую камісію.

Органы, якія ўтвараюць камісіі, таксама маюць права ўключыць сваіх прадстаўнікоў у склад камісій.

Згодна з арт. 34 Выбарчага кодэкса, акруговыя выбарчыя камісіі фармуюцца ў колькасці 9-13 асобаў Прэзідыўмамі абласных, Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў на сумесных паседжаннях разам з абласнымі, Мінскім гарадскім выканаўчымі камітэтамі не пазней чым за 75 дзён да выбараў.

Суб’екты, якія валодаюць правам вылучэння ў акруговыя камісіі, павінны прадставіць у органы, якія іх утвараюць, неабходныя дакументы не пазней за 78 дзён да даты выбараў.

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на тое, што, у адпаведнасці з арт.34 ВК Рэспублікі Беларусь, як правіла, камісіі павінны быць сфармаваны не менш чым на 1\3 з прадстаўнікоў палітычных партый, іншых грамадскіх аб’яднанняў. Гэтае патрабаванне часта парушалася падчас фармавання камісій на папярэдніх выбарах. Таксама заканадаўча замацавана, што дзяржаўныя служачыя не могуць складаць больш чым 1\3 ад складу камісіі.

### 2.1. Вылучэнне ад палітычных партый і грамадскіх аб’яднанняў

Кіруючыя органы палітычных партый і іншых грамадскіх аб’яданняў вылучаюць сваіх прадстаўнікоў у акруговыя камісіі на паседжаннях. У пратаколе паседжання павінна быць указана:

1) назва кіруючага органа палітычнай партыі, іншага грамадскага аб’яднання;
2) адрас і нумар тэлефона кіруючага органа;
3) колькасць членаў органа і колькасць удзельнікаў паседжання;
4) вынікі галасавання;
5) дата прыняцця рашэння;
6) прозвішча, імя, імя па бацьку вылучанай асобы (павінна быць на ўліку ў партыйнай структуры, зарэгістраванай на тэрыторыі выбарчай акругі);
7) дата нараджэння вылучанай асобы;
8) месца працы (занятак) і пасада вылучанай асобы;
9) месца жыхарства вылучанай асобы.

Пратакол павінен быць падпісаны старшынём і сакратаром паседжання. Да пратаколу прыкладаецца копія пасведчання аб рэгістрацыі палітычнай партыі, грамадскага аб’ядання.

### 2.2. Вылучэнне шляхам збору подпісаў грамадзян

Вылучыць прадстаўніка ў выбарчую камісію можна і шляхам збору подпісаў выбарашчыкаў:

– у любыя камісіі – не меньш за 10 подпісаў;

Подпісы можна збіраць толькі ў грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія пражываюць на тэрыторыі выбарчай акругі.

Нельга збіраць подпісы да моманту абвяшчэння выбараў. Бланкі з подпісамі неабходна перадаць у органы, якія фармуюць выбарчыя камісіі, у тыя ж тэрміны, якія пазначаны і для вылучэння ад палітычных партый і грамадскіх аб’яднанняў.

У падпісным лісце павінна быць указана:

- прозвішча, імя, імя па бацьку прэтэндэнта ў склад камісіі;
- дата нараджэння;
- месца жыхарства і нумар тэлефона;
- месца працы;
- пасада прэтэндэнта;
- прозвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэння, месца жыхарства, подпіс кожнага грамадзяніна, які падпісаў заяву аб вылучэнні ў склад камісіі.

**2.3. Вылучэнне ад працоўнага калектыва**

Працоўныя калектывы арганізацый, якія размешчаны на адпаведнай тэрыторыі і налічваюць не меньш за 10 працоўных, вылучаюць сваіх прадстаўнікоў на сходах (канферэнцыях).

У пратаколе схода (канферэнцыі) павінна быць указана:

1) назва, адрас і нумар тэлефона арганізацыі;
2) колькасць членаў калектыва;
3) колькасць удзельнікаў схода;
4) вынікі галасавання;
5) дата прыняцця рашэння;
6) прозвішча, імя, імя па бацьку вылучанай асобы з указаннем таго, што ён з’яўляецца членам працоўнага калектыва арганізацыі, якая яго вылучае;
7) дата нараджэння вылучанай асобы;
8) месца працы (занятак) і пасада вылучанай асобы;
9) месца жыхарства вылучанай асобы.

Пратакол павінен быць падпісаны старшынём і сакратарам схода.

Акрамя абавязковых звестак, незалежна ад таго, якім шляхам адбылося вылучэнне – ад партыі, грамадскага аб’яднання ці ад групы грамадзян – варта таксама даць і дадатковыя характарыстыкі вылучаемай асобы: напрыклад, “валодае юрыдычнай адукацыяй”, “мае вопыт працы ў камісіі”, “быў (была) нацыянальным ці міжнародным назіральнікам” і інш.

**2.4. Паседжанні органаў, якія ўтвараюць камісіі**

У адпаведнасці з новай рэдакцыяй арт.34 Выбарчага кодэкса, на паседжаннях органаў, якія ўтвараюць камісіі, маюць права прысутнічаць прадстаўнікі палітычных партый, грамадскіх аб’яднанняў, працоўных калектываў, груп грамадзян, якія вылучылі сваіх прэтэндэнтаў у склад адпаведных выбарчых камісій.

Гэта магчымасць дазваляе ацаніць, якім прынцыпамі кіраваліся органы, якія ўтвараюць камісіі, пры прыняцці рашэнняў па ўключэнні ці неўключэнні тых ці іншых прадстаўнікоў. Вельмі важна прысутнічаць на такіх паседжаннях.

Падчас паседжанняў неабходна звярнуць увагу:

1. ці быў кворум падчас сумесных паседжанняў;
2. хто і як презэнтаваў вылучаных асобаў;
3. ці адбывалася абмеркаванне падчас паседжання;
4. ці выканана норма закона, якая прадугледжвае, што, як правіла, не меньш за 1\3 складу камісіі павінна быць сфармавана з прадстаўнікоў палітычных партый, грамадскіх аб’яднанняў;
5. ці сапраўды дзяржслужачыя не налічваюць больш за 1\3 ад складу камісіі.

Уважліва перапішыце ўсіх, хто ўвайшоў у склад сфармаванай камісіі, якім шляхам і ад якіх суб’ектаў адбывалася іх вылучэнне. Гэта дазволіць прааналізаваць, наколькі змяніўся склад камісіі з папярэдніх выбараў.

**2.5. Як патрапіць на паседжанне органаў, якія ўтвараюць выбарчыя камісіі**

У пратаколе кіруючага органа грамадскага аб’яднання адразу разам з вылучэннем прадстаўніка ў склад адпаведнай камісіі іншым пунктам парадку дня неабходна прызначыць асобу, якую вы дэлегуеце ў на паседжанне органаў, якія фармуюць камісію. Укажыце прозвішча, імя, імя па бацьку, дату нараджэння, месца жыхраства, кантактны тэлефон гэтай асобы. Пажадана, каб такімі паўнамоцтвамі была надзелена менавіта тая асоба, якая і вылучаецца ў склад адпаведнай выбарчай камісіі. Пры прадстаўленні пратакола ў агульны аддзел органаў, якія ўтвараюць камісію, звярніце іх увагу, што на паседжанне па фармаванні камісіі вылучана канкрэтная асоба, даведайцеся дату, час і месца паседжання, папрасіце, каб пра гэта было паведамленна асобе, якой даручана

прысутнічаць на паседжанні. Калі вы сумняваецеся, што такое запрашэнне адбудзецца, вазьміце тэлефон, па якім вы можаце атрымаць усю неабходную інфармацыю.
Пры вылучэнні ад групы грамадзянаў неабходна, каб у заяве, акрамя дадзеных пра асобу, якая вылучаецца ў адпаведную камісію, таксама ўказвалася, каго выбаршчыкі ад свайго імя накіроўваюць на паседжанне органаў, якія фармуюць склад выбарчай камісіі. Астатнія дзеянні пры падачы дакументаў аналагічныя падачы ад грамадскага аб’яднання.

**Органы, якія фармуюць выбарчыя камісіі, не абавязаны ўключаць заяўленых прадстаўнікоў у іх склад. Гэта права адпаведных органаў, а не абавязак.**

Рашэнні аб утварэнні акруговых камісій з указаннем іх складу, месца знаходжання, нумароў тэлефонаў у 7-дзённы тэрмін друкуюцца ў СМІ ці даводзяцца іншым чынам да ведама грамадзян.

**2.6. Абскарджанне неўключэння ў склад выбарчай камісіі**
У адпаведнасці са зменамі ў Выбарчы кодэкс, неўключэнне ў склад выбарчай камісіі зараз можна абскардзіць у судовым парадку.
Скарга падаецца ад імя кіруючага органа арганізацыі, якая вылучала прадстаўніка, і падпісваецца старшынём гэтага органа.
У выпадку, калі не ўключана асоба, якая вылучана ад групы грамадзян, такая скарга павінна быць падпісана УСІМІ грамадзянамі, якія вылучалі свайго прадстаўніка ў склад камісіі. Такім чынам, можна адразу пры зборы подпісаў за вылучэнне ў склад камісіі збіраць подпісы і пад адпаведнай заявай, тлумачачы людзям, што гэта неабходна для звароту ў суд у выпадку адмовы ўключыць іх прадстаўніка ў камісію, ці адразу пасля адмовы абыйсці УСІХ 10 грамадзянаў, якія падпісалі заяву аб вылучэнні.
Такая скарга павіна быць пададзена не пазней чым на працягу трох дзён з дня прыняцця рашэння аб фармаванні адпаведнай выбарчай камісіі.
Скарга падаецца ў абласныя, Мінскі гарадскі суд.
Сыходзячы з нормы закону, а таксама ўсталяванай судовай практыкі, бачна, што фармальна немагчыма ў скарзе апеляваць да таго, што ў вас большы вопыт працы, што вы падалі раней за ўсіх дакументы аб вылучэнні і іншых аргументаў, паколькі закон не вызначае крытэрыяў, якім павінен адпавядаць сябра камісіі. Магчыма апеляваць толькі да працэдурных парушэнняў пры фармаванні камісій ці калі не выкананы закладзены ў законе прынцып, што ў склад камісіі не могуць уваходзіць больш за 1\3 дзяржаўных служачых, ці ў камісію ўключаны суддзі, пракуроры, кіраўнікі мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. Пры гэтым у скарзе ўсё роўна трэба абавязкова пазначаць, што асоба, якая вылучалася ў склад камісіі, валодае лепшымі здольнасцямі і вопытам працы.
Разам са скаргай неабходна падаць і пратакол паседжання кіруючага органа арганізацыі, у якім даручыць аднаму з сяброў прадстаўляць інтарэсы грамадскага аб’яднання, палітычнай партыі ў судзе.
Калі скарга падаецца ад імя групы грамадзян, у скарзе з 10 подпісамі павінна быць пазначана, каго яны вылучаюць у якасці свайго прадстаўніка ў суд.
Такія скаргі не абкладаюцца дзяржаўнай пошлінай.
Рашэнні судоў канчатковыя і не падлягаюць абскарджанню ў касацыйным парадку, а толькі ў межах нагляднай вытворчасці.

**2.7. Што неабходна на дадзеным этапе?**
1) прысутнічаць на паседжаннях органаў, якія фармуюць акруговыя выбарчыя камісіі;
2) атрымаць як мага больш поўную інфармацыю пра склад акруговых камісій, месца працы іх сяброў і спосаб вылучэння. Для гэтага абавязкова трэба адсочваць

інфармацыю ў абласных і раённых афіцыйных выданнях, а таксама з моманту ўтварэння камісій зарэгістравацца ў якасці назіральнікаў;

3) сабраць інфармацыю пра: а) колькасць прадстаўнікоў, якія вылучаліся ў склад акруговых камісій ад дэмакратычных палітычных партый і грамадскіх аб’яднанняў; б) колькасць дэмакратычных прэтэндэнтаў, якія вылучаліся шляхам збору подпісаў; в) колькі з такіх прадстаўнікоў уключаны ў склад акруговых выбарчых камісій.

Гэтая інфармацыя аператыўна перадаецца для этапнай справаздачы.

**3. Паўнамоцтвы акруговых выбарчых камісій**

Паўнамоцтвы акруговых выбарчых камісій акрэслены ў асноўным у арт. арт. 37, 42 Выбарчага кодэкса.

Першае паседжанне акруговай выбарчай камісіі, на якім абіраецца старшыня, склікаецца не пазней трох дзён з моманту фармавання.

Пажадана, каб назіральнікі да першага паседжання ўжо афармілі свае паўнамоцтвы ў якасці назіральнікаў. Памятайце, што ў адпаведнасці з арт. 37 Выбарчага кодэкса, існуе толькі адна форма працы камісіі, дзе могуць прымацца рашэнні – яе правамоцныя паседжанні. Любыя іншыя формы працы – незаконныя. Гэта тычыцца і праверкі подпісаў выбаршчыкаў па вылучэнні кандыдытаў у дэпутаты.

<u>У кампетэнцыю акруговых выбарчых камісій уваходзіць:</u>

- арганізацыя правядзення выбараў;
- кіраванне дзейнасцю ўчастковых выбарчых камісій;
- заслухоўванне інфармацыі службовых асоб па пытаннях арганізацыі і падрыхтоўкі выбараў;
- рэгістрацыя ініцыятыўных груп;
- рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты;
- ажыццяўленне кантролю за выкананнем роўных прававых умоваў передвыбарчай дзейнасці кандыдатаў у дэпутаты;
- садзеянне ў арганізацыі сустрэч з выбаршчыкамі кандыдатаў у дэпутаты;
- устанаўленне адзінай нумарацыі выбарчых участкаў на акрузе;
- устанаўленне вынікаў выбараў па акрузе;
- разгляд скаргаў на дзеянні і рашэнні ўчастковых камісій, а таксама іншых скаргаў на парушэнне выбарчага заканадаўства ў межах выбарчай акругі.

<u>Сябра камісіі валодае наступнымі правамі:</u>

- уносіць прапановы ў парадак дня паседжання, а таксама прапановы па пытаннях, якія знаходзяцца ў кампетэнцыі камісіі;
- выступаць на паседжаннях камісіі, патрабаваць галасавання па прапанаваных пытаннях;
- задаваць удзельнікам паседжання пытанні і атрымліваць адказы па сутнасці;
- знаёміцца з дакументамі і іншымі матэрыяламі камісіі, а таксама ніжэйстаячых участковых камісій у межах адпаведнай выбарчай акругі.

<u>Сябра камісіі абавязаны:</u>

- выконваць заканадаўства;
- удзельнічаць у паседжаннях камісіі, а ў выпадку немагчымасці – паведамляць пра гэта кіраўніцтву выбарчай камісіі;
- прымаць удзел у падрыхтоўцы паседжання камісіі і праверках, якія праводзяцца камісіяй;
- выконваць рашэнні камісіі і яе даручэнні.

Рашэнні акруговых камісій, датычныя дзейнасці ўчастковых, абавязковыя для выканання.

Рашэнні акруговых камісій можна абскарджваць у Цэнтральную камісію, а ў выпадках, прадугледжаных заканадаўствам (напрыклад, звязаных з адмовай у рэгістрацыі кандыдатам, адменай рэгістрацыі кандыдата) – у суд.

## VII. Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты

Вылучаць кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў маюць права:
1) палітычныя партыі, зарэгістраваныя Міністэрствам юстыцыі не пазней чым за 6 месяцаў да абвяшчэння выбараў;
2) ініцыятыўныя групы грамадзян шляхам збору подпісаў;
3) працоўныя калектывы.
Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты пачынаецца за 70 дзён і заканчваецца за 40 дзён да выбараў.
Пры падачы дакументаў асоба, вылучаная кандыдатам у дэпутаты, прад’яўляе пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

**1. Вылучэнне ад палітычнай партыі**
Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ад палітычных партый ажыццяўляецца вышэйшымі рэспубліканскімі органамі палітычных партый.
Палітычная партыя мае права вылучыць па кожнай выбарчай акрузе толькі аднаго кандыдата ў дэпутаты з ліку сяброў гэтай партыі. Пратаколы аб вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты ад партыі неабходна здаваць у адпаведныя акруговыя камісіі не пазней, чым за 40 дзён да выбараў.
Што павінна ўтрымлівацца ў пратаколе?

1. назва вышэйшага органа палітычнай партыі з указаннем адраса і тэлефона;
2. колькасць членаў вышэйшага органа палітычнай партыі;
3. колькасць удзельнікаў паседжання;
4. дата правядзення паседжання;
5. вынікі галасавання і прынятае рашэнне;
6. прозвішча, імя, імя па бацьку асобы, якая вылучана кандыдатам у дэпутаты з пазначэннем партыйнасці;
7. дата нараджэння вылучанай асобы;
8. пасада (занятак) і месца працы вылучанай асобы;
9. месца жыхарства вылучанай асобы;
10. нумар выбарчай акругі, па якой вылучана гэтая асоба.

Для рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты ў акруговую камісію прадстаўляюцца:

- пісьмовая заява пра згоду балатавацца па дадзенай выбарчай акрузе;
- біяграфічныя дадзеныя асобы, вылучанай кандыдатам, з указаннем звестак, прадугледжаных Цэнтральнай камісіяй;
- дэкларацыя аб даходах і маёмасці па форме, зацверджанай Саветам Міністраў;
- пісьмовая заява аб згодзе пры абаранні дэпутатам Палаты прадстаўнікоў на вызваленне ад займаемай пасады (прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ці суддзі), спыненні паўнамоцтваў члена Савета Рэспублікі, дэпутата мясцовага Савета;
- пратакол вышэйшага органа палітычнай партыі аб вылучэнні кандыдата ў дэпутаты;
- копія пасведчання аб рэгістрацыі палітычнай партыі і яе Статута *(павінны быць завераны ў выканаўчых органах партыі)*;
- копія дакумента, які пацвярджае сяброўства ў палітычнай партыі асобы, якая вылучана кандыдатам у дэпутаты;

**2. Вылучэнне шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў**

Вылучэнне шляхам збору подпісаў ажыццяўляецца групай выбаршчыкаў (ініцыятыўнай групай) у колькасці не меней чым 10 чалавек, незалежна ад таго, пражываюць яны ці не на тэрыторыі акругі, дзе адбываецца вылучэнне кандыдатаў.

**2.1. Рэгістрацыя ініцыятыўнай групы**

Не пазней, чым за 65 дзён да выбараў у адпаведную акруговую камісію сам прэтэндэнт у кандыдаты падае заяву аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы разам са спісам яе сябраў і ўказаннем кіраўніка. У спісе павінны быць указаны наступныя звесткі:

1) прозвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэння, пасада (занятак), месца працы, месца жыхарства, партыйнасць асобы, якая прапануецца для вылучэння кандыдатам у дэпутаты;

2) прозвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэньня, месца жыхарства кожнага сябра ініцыятыўнай групы і яе кіраўніка.

*Акруговая выбарчая камісія на працягу 5 дзён прымае рашэнне аб рэгістрацыі ці адмове ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы.*

Рашэнне аб адмове ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы можа быць абскарджана на працягу трох дзён з моманту адмовы ў Цэнтральнай камісіі, а рашэнне ЦВК – у той жа тэрмін у Вярхоўным судзе. Скарга падаецца непасрэдна асобай, якая мае намер вылучыцца кандыдатам у дэпутаты.

*<u>Найбольш распаўсюджаныя прычыны адмоваў:</u>*

*а) парушэнне прынцыпу добраахвотнасці ўдзелу ў выбарах. Дастаткова, каб адзін чалавек напісаў заяву, што ён уключаны ў склад ініцыятыўнай групы без ягонай згоды. Акруговая камісія можа адмовіць у рэгістрацыі, нават не паведамляючы прэтэндэнту ў кандыдаты, хто напісаў такую заяву.*

*б) датэрміновая агітацыя, распаўсюд агітацыйных матэрыялаў. Практычна немагчыма даказаць адсутнасць такіх фактаў, калі ў акруговыя камісіі паступілі “заявы грамадзян”, якія нібыта атрымалі такія матэрыялы.*

**2.2. Збор подпісаў**

Калі акруговая выбарчая камісія прымае станоўчае рашэнне, яна выдае адпаведныя пасведчанні сябрам ініцыятыўнай групы і падпісныя лісты для збору подпісаў выбаршчыкаў у падтрымку асобы, якая прапануецца для вылучэння кандыдатам у дэпутаты.

У падпісным лісце ўказваюцца: а) прозвішча, імя імя па бацьку прэтэндэнта ў кандыдаты; б) дата нараджэння; в) пасада (занятак), месца працы; г) месца жыхарства; д) партыйнасць прэтэндэнта ў кандыдаты; е) прозвішча, імя, імя па бацьку сябра ініцыятыўнай групы, які збірае подпісы; ж) нумар рэгістрацыі ініцыятыўнай групы.

Збор подпісаў пачынаецца з моманту рэгістрацыі ініцыятыўнай групы і заканчваецца не пазней чым за 40 дзён да даты выбараў. На працягу дадзенага перыяду ініцыятыўнай групе неабходна сабраць не меньш за 1 000 подпісаў жыхароў адпаведнай акругі, якія дасягнулі 18 гадоў і валодаюць выбарчым правам.

Удзел адміністрацый арганізацый у зборы подпісаў, прымус у працэсе збору подпісаў, узнагароджанне выбаршчыкаў за пастаўленыя подпісы – недапушчальныя. Парушэнне гэтых патрабаванняў можа быць падставай для адмовы ў рэгістрацыі ці адмены рашэння аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты.

Ставячы свой подпіс, выбаршчык указвае ў падпісным лісце: а) прозвішча, імя, імя па бацьку; б) дату нараджэння; в) месца жыхарства; г) серыю і нумар пашпарта ці рэквізіты пасведчання асобы, якое яго замяняе. Дадзеныя пра выбаршчыка ўносяцца ў падпісны ліст рукапісным спосабам. Выбаршчык уласнаручна ставіць дату подпісу і распісваецца. Подпісы нумаруюцца.

На адным падпісным лісце павінны быць подпісы выбаршчыкаў, якія пражываюць на тэрыторыі толькі аднаго раёна.

Выбаршчык мае права падпісацца ў падтрымку асобы, якая прапануецца для вылучэння кандыдатам у дэпутаты, толькі адзін раз, але можа падпісвацца за розных асобаў. Ён можа адклікаць свой подпіс да моманту здачы падпісных лістоў у акруговую выбарчую камісію, накіраваўшы пра гэта заяву ў камісію.
Адказнасць за дакладнасць дадзеных, якія ўтрымліваюцца ў падпісных лістах, нясе сябра ініцыятыўнай групы, які ажыццяўляў збор подпісаў.
Асабісты подпіс сябра ініцыятыўнай групы ставіцца на кожным падпісным лісце.
Трэба памятаць, што ў адпаведнасці з Выбарчым кодэксам подпісы могуць збірацца і ў форме пікетавання. На такія пікетаванні не патрабуецца атрыманне дазволу ў мясцовых органаў ўлады, калі такія пікеты адбываюцца ў месцах, не забароненых для збору подпісаў. Такім чынам, мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы павінны да моманту пачатку збору подпісаў выдаць пастанову з указаннем месцаў, дзе забаронены збор подпісаў.
Трэба адзначыць, што Цэнтральная камісія падчас мінулых прэзідэнцкіх выбараў усталявала практыку, згодна з якой подпісы маглі збіраць не толькі сябры ініцыятыўнай групы, але і іх памошнікі, ніякім чынам не зарэгістраваныя. Гэтая практыка супярэчыць Выбарчаму кодэксу і з’яўляецца формай апраўдання выкарыстання адміністратыўнага рэсурсу для прымусу збору подпісаў асобамі, якія знаходзяцца ў непасрэдным працоўным падпарадкаванні сябра ініцыятыўнай групы.

### 3. Вылучэнне ад працоўных калектываў

Рэгламентуецца арт. арт. 63, 66 Выбарчага кодэксу. Ажыццяўляецца на сходах (канферэнцыях) выбаршчыкаў у працоўных калектывах, якія знаходзяцца на тэрыторыі выбарчай акругі, маюць права юрыдычнай асобы і налічваюць не меньш за 300 працоўных. Кандыдат таксама можа быць вылучаны ад некалькіх меньшых калектываў з агульнай колькасцю працоўных не меньш за 300 чалавек на іх агульным сходзе.
Сходы (канферэнцыі) склікаюцца ў складзе не меньш за 150 чалавек адміністрацыяй арганізацыі як па ўласнай ініцыятыве, так і па ініцыятыве групы выбаршчыкаў, якія працуюць у арганізацыі. У выпадку адхілення адміністрацыяй прапановы аб правядзенні схода па ініцыятыве групы выбаршчыкаў ім выдаецца копія матываванага рашэння. Дадзенае рашэнне можа быць у 3-дзённы тэрмін абскарджана (скарга павінна быць падпісана большасцю ініцыятараў) у раённы, гарадскі суд. Рашэнне суда з’яўляецца канчатковым.
На сходзе павінна прысутнічаць большая палова працоўнага калектыва. Рашэнне схода прымаецца большасцю галасоў яго ўдзельнікаў і заносіцца ў пратакол. Працоўны калектыў можа вылучыць толькі аднаго кандыдата ў дэпутаты.
<u>Што павінна ўтрымлівацца ў пратаколе?</u>

1. дадзеныя пра працоўны калектыў з указаннем адраса і тэлефона;
2. колькасць членаў працоўнага калектыва;
3. колькасць удзельнікаў схода (канферэнцыі);
4. дата правядзення схода (канферэнцыі);
5. вынікі галасавання і прынятае рашэнне;
6. прозвішча, імя, імя па бацьку асобы, якая вылучана кандыдатам у дэпутаты з пазначэннем партыйнасці (калі з’яўляецца сябрам партыі) ;
7. дата нараджэння вылучанай асобы;
8. пасада (занятак) і месца працы вылучанай асобы;
9. месца жыхарства вылучанай асобы;
10. нумар выбарчай акругі, па якой вылучана гэтая асоба.

Для рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты ў акруговую камісію прадстаўляюцца:

- пісьмовая заява пра згоду балатаваацца па дадзенай выбарчай акрузе;
- біяграфічныя дадзеныя асобы, вылучанай кандыдатам, з указаннем звестак, прадугледжаных Цэнтральнай камісіяй;
- дэкларацыя аб даходах і маёмасці па форме, зацверджанай Саветам Міністраў;
- пісьмовая заява аб згодзе пры абаранні дэпутатам Палаты прадстаўнікоў на вызваленне ад займаемай пасады (прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ці суддзі), спыненні паўнамоцтваў члена Савета Рэспублікі, дэпутата мясцовага Савета;
- пратакол схода (канферэнцыі) працоўнага калектыва аб вылучэнні кандыдата ў дэпутаты;
- копія пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі арганізацыі.

*Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты ад працоўных калектываў у асноўным выкарыстоўваецца кандыдатамі ад улады і не дазваляе ў неабходнай меры кантраляваць гэты працэс.*

## VIII. Рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты

Паводле арт. 68 Выбарчага кодэкса, рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты пачынаецца за 40 дзён і заканчваецца не пазней за 30 дзён да пачатку выбараў. У асобных выпадках тэрмін рэгістрацыі кандыдатаў можа быць працягнуты па матываваным рашэнні Цэнтральнай камісіі, але не болей чым на пяць дзён.

**1. Хто прымае рашэнне аб рэгістрацыі кандыдата?**
Рашэнне аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты прымаецца адпаведнай акруговай выбарчай камісіяй пры наяўнасці неабходных дакументаў (арт. 66 ВК).
Камісія правярае адпаведнасць парадку вылучэння кандыдата ў дэпутаты патрабаванням дзеючага заканадаўства і прымае рашэнне аб рэгістрацыі альбо матываванае рашэнне аб адмове ў рэгістрацыі.
Не пазней чым на чацвёрты дзень з моманту рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты акруговая камісія перадае ў сродкі масавай інфармацыі для друку паведамленне аб ягонай рэгістрацыі з указаннем прозвішча, імя, імя па бацьку, даты нараджэння, пасады (занятку), месца працы і месца жыхарства, партыйнасці, а таксама звесті пра даход і маёмасць у аб’ёме, вызначаным Цэнтральнай камісіяй.

**2. Адмова ў рэгістрацыі кандыдата**
Рашэнне аб адмове ў рэгістрацыі кандыдата прымаецца адпаведнай акруговай камісіяй і выдаецца не пазней наступнага дня з моманту прыняцця дадзенага рашэння.

**2.1. Падставы для адмовы:**
а) прадстаўленне ў дакументах аб вылучэнні кандыдата ў дэпутаты звестак, якія не адпавядаюць рэчаіснасці, у тым ліку – біяграфічных і звестак аб даходах і маёмасці;
б) выяўленне пры праверцы дакладнасці подпісаў выбрашчыкаў у падпісных лістах больш за 15 % несапраўдных подпісаў ад агульнай колькасці правераных;
*Якія подпісы прызнаюцца несапраўднымі?*
Згодна з арт. 61 ВК, несапраўднымі прызнаюцца подпісы:

1. фіктыўныя (зробленыя ад імя неіснуючых асоб);
2. пастаўленыя адной асобай ад імя іншых асоб;
3. асоб, якія не валодаюць выбарчым правам;
4. асоб, якія ўказалі пра сябе несапраўдныя звесткі;
5. сабраныя да ўстаноўленага тэрміну вылучэння кандыдатаў;
6. пры адсутнасці аднаго ці некалькіх дадзеных, якія патрабуюцца Кодэксам;

7. калі звесткі пра выбаршчыкаў унесены ў падпісныя лісты нерукапісным спосабам або алоўкам;
8. калі даты ўнясення подпісаў выкананы выбаршчыкамі не ўласнаручна;

*Усе подпісы ў падпісным лісце лічацца несапраўднымі:*

1. калі выбаршчыкі пражываюць не ў адным населеным пункце, а ў гарадах з раённым дзяленнем – не ў адным раёне;
2. калі подпісы сабраны не сябрам ініцыятыўнай групы;
3. калі падпісны ліст не падпісаны сябрам ініцыятыўнай групы або падпісаны іншым сябрам ініцыятыўнай групы, які іх не збіраў;
4. калі подпісы сабраны з удзелам адміністрацый арганізацый;
5. калі подпісы сабраны пад прымусам;
6. калі подпісы сабраны за ўзнагароду выбаршчыкаў.

У выпадку выяўлення некалькіх подпісаў аднаго і таго ж выбаршчыка ў падтрымку аднаго кандыдата сапраўдным лічыцца толькі адзін подпіс.

Адной з самых распаўсюджаных падставаў адмовы ў рэгістрацыі кандыдатам з’яўляецца няправільнае запаўненне дэкларацыі аб даходах і маёмасці. Згодна з дзеючым заканадаўствам, падставай для адмовы можа быць толькі неўказанне такіх звестак, якія носяць істотны характар. Падчас мінулых прэзідэнцкіх выбараў Пастанова Цэнтральнай камісіі растлумачвала, што пад істотным характарам маецца на ўвазе адхіленне на 20% ад рэальнай сумы даходаў у бок яе змяншэння, а таксама неўказанне наяўнасці ва ўласнасці любой нерухомасці, транспартнага сродка, звестак аб каштоўных паперах, долі ва ўстаноўчым фондзе юрыдычнай асобы. Можна прадбачыць, што і падчас парламенцкіх выбараў практыка вызначэння істотных разыходжанняў у дэкларацыі аб даходах і маёмасці значна не будзе адрозніваецца.

Кандыдат мае права балатавацца толькі па адной выбарчай акрузе. Пры вылучэнні па некалькіх акругах аб згодзе балатавацца па пэўнай выбарчай акрузе і адмове балатавацца па іншых прэтэндэнт у кандыдаты павінен паведаміць не пазней чым праз тры дні пасля заканчэння тэрміну вылучэння кандыдатаў у дэпутаты. Невыкананне гэтага патрабавання з’яўляецца падставай для адмовы ў рэгістрацыі па ўсіх акругах.

### 2.2. Абскарджанне адмовы ў рэгістрацыі

Рашэнне аб адмове ў рэгістрацыі можа быць абскарджана асобай, якая была вылучана кандыдатам у дэпутаты, у трохдзённы тэрмін з моманту прыняцця рашэння ў Цэнтральнай камісіі. Рашэнне Цэнтральнай камісіі ў той жа тэрмін можа быць абскарджана ў Вярхоўным судзе, які павінен разглядзець скаргу ў трохдзённы тэрмін; ягонае рашэнне з’яўляецца канчатковым.
Згодна з Выбарчым кодэксам, асоба, якая мае намер стаць кандыдатам у дэпутаты, мае права азнаёміцца з усімі матэрыяламі, датычнымі праверкі сапраўднасці прадстаўленых ім дакументаў для рэгістрацыі ў якасці кандыдата.

## 3. Дзеянні ўдзельнікаў маніторынга

Зарэгістраваўшыся ў якасці назіральніка ў акруговай выбарчай камісіі, патрабуйце магчымасці прысутнічаць пры правядзеніі праверкі сапраўднасці подпісаў і іншых дакументаў аб вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты, пададзеных у акруговую камісію.
Для гэтага загадзя накіруйце на імя старшыні акруговай камісіі пісьмовую заяву аб забеспячэнні магчымасці вашай прысутнасці на дадзеным паседжанні выбарчай камісіі. У

заяве напішыце, што просіце пісьмова праінфармаваць вас аб выніках разгляду заявы згодна з арт. 49 Выбарчага кодэкса (на працягу трох дзён).

Збярыце інфармацыю аб прысутнасці (жаданні прысутнічаць) іншых назіральнікаў пры правядзенні праверкі подпісаў і іншых дакументаў акруговай камісіяй.

Звярніце ўвагу на факты аказання ціску на асоб, якія прапануюцца да вылучэння ў якасці кандыдатаў у дэпутаты з мэтай схіліць іх адмовіцца ўдзельнічаць у выбарах.

Зафіксуйце факты аказання ціску на выбаршчыкаў з мэтай прымусіць іх адклікаць свае подпісы, пададзеныя ў падтрымку таго ці іншага прэтэндэнта ў кандыдаты.
*Як правіла, такі ціск аказваецца па месцы працы выбаршчыкаў з боку адміністрацый прадпрыемстваў ці прадстаўнікоў мясцовых выканаўчых органаў улады. Часта прадстаўнікі мясцовых выканаўчых органаў улады пад выглядам неабходнасці праверкі подпісаў выбаршчыкаў прапануюць ім распісацца на чыстых аркушах паперы, а пазней упісваюць у іх тэкст, згодна з якім тыя нібыта просяць адклікаць свае подпісы.*
*Пры праверцы подпісаў акруговыя камісіі не ўлічваюць адкліканыя подпісы, і гэта можа стаць падставай для адмовы ў рэгістрацыі кандыдатам.*

Звярніце ўвагу, ці былі заявы выбаршчыкаў аб тым, што дата і подпіс у падпісным лісце пастаўлены імі не ўласнаручна.
*Не выключана, што выбаршчыкам было прапанавана пад выглядам неабходнасці праверкі подпісаў распісацца на чыстым аркушы паперы, а потым быў упісаны неабходны тэкст.*

Звярніце ўвагу на факты збору подпісаў не сябрамі ініцыятыўнай групы, але завераныя імі.

Адзначце, наколькі абгрунтаваныя прэтэнзіі акруговых камісій да дадзеных, адлюстраваных прэтэндэнтамі ў кандыдаты ў дэкларацыях аб даходах і маёмасці.

## IX. Фармаванне ўчастковых выбарчых камісій

Паводле арт. 34 Выбарчага кодэкса, участковыя выбарчыя камісіі па правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў фармуюцца ў складзе 5-19 сябраў раёнымі, гарадскімі выканаўчымі камітэтамі, а ў гарадах з раённым дзяленнем – мясцовымі адміністрацыямі не пазней чым за 45 дзён да выбараў. У неабходных выпадках колькасны склад участковых камісій можа быць павялічаны ці зменшаны.
Згодна з арт 35, вылучаць сваіх прадстаўнікоў са складу сваіх членаў ва ўчастковыя выбарчыя камісіі маюць права:

1) палітычныя партыі і іншыя грамадскія аб’яднанні;

2) працоўныя калектывы арганізацый ці працоўныя калектывы іх структурных падраздзяленняў;

3) грамадзяне шляхам збору подпісаў.

Усе дадзеныя суб’екты могуць вылучаць у адпаведную ўчастковую камісію толькі па аднаму прадстаўніку.

**1. Вылучэнне ад палітычных партый і грамадскіх аб’яднанняў**

Ва ўчастковыя камісіі на сваіх паседжаннях маюць права вылучаць прадстаўнікоў:

- кіруючыя органы абласных, Мінскай гарадской, раённых, гарадскіх (у гарадах абласнога падпарадкавання), раённых у гарадах арганізацыйных структур палітычных партый, іншых грамадскіх аб’яднанняў;
- кіруючыя органы гарадскіх (у гарадах раённага падпарадкавання) арганізацыйных структур палітычных партый, іншых грамадскіх аб’яднанняў, сходы іх першасных арганізацый;
- першасная арганізацыя палітычнай партыі, іншага грамадскага аб’яднання мае права вылучаць свайго прадстаўніка ва ўчастковую камісію таго ўчастка для галасавання, на тэрыторыі якога яна знаходзіцца.

<u>У пратаколе паседжання павінна быць указана:</u>

1. назва кіруючага органа палітычнай партыі, іншага грамадскага аб’яднання;
2. адрас і нумар тэлефона кіруючага органа;
3. колькасць членаў органа і колькасць удзельнікаў паседжання;
4. вынікі галасавання;
5. дата прыняцця рашэння;
6. прозвішча, імя, імя па бацьку вылучанай асобы (павінна быць на ўліку ў партыйнай структуры, зарэгістраванай на адпаведнай тэрыторыі);
7. дата нараджэння вылучанай асобы;
8. месца працы (занятак) і пасада вылучанай асобы;
9. месца жыхарства вылучанай асобы.

Пратакол павінен быць падпісаны старшынём і сакратаром паседжання. Да пратаколу прыкладаецца копія пасведчання аб рэгістрацыі арганізацыйных структур палітычных партый, іншых грамадскіх аб’яднанняў.

**2. Вылучэнне ад працоўных калектываў**

Ва ўчастковыя камісіі маюць права вылучаць сваіх прадстаўнікоў сходы (канферэнцыі) працоўных калектываў арганізацый, якія налічваюць не меньш за 10 працоўных і размешчаны на тэрыторыі раёна, горада, раёна ў горадзе, пасёлка, сельсавета.

Сход з’яўляецца правамоцным, калі ў яго працы ўдзельнічае больш за палову складу калектыва. Канферэнцыі ў працоўных калектывах праводзяцца, калі скліканне сходаў праблематычна па прычынах вялікай колькасці працуючых, шматзменнасці ці тэрытарыяльнай раз’яднанасці структурных падраздзяленняў, і з’яўляюцца правамоцнымі пры ўдзеле ў іх працы не меньш двух трацін дэлегатаў, абраных у парадку, які ўстаноўлены працоўным калектывам. Рашэнне схода (канферэнцыі) працоўнага калектыва прымаецца большасцю галасоў яго ўдзельнікаў.

<u>У пратаколе схода (канферэнцыі) павінна быць указана:</u>

1) назва, адрас і нумар тэлефона арганізацыі;

2) колькасць членаў калектыва;

3) колькасць удзельнікаў схода;

4) вынікі галасавання;

5) дата прыняцця рашэння;

6) прозвішча, імя, імя па бацьку вылучанай асобы з указаннем таго, што ён з’яўляецца членам працоўнага калектыва арганізацыі, якая яго вылучае;

7) дата нараджэння вылучанай асобы;

8) месца працы (занятак) і пасада вылучанай асобы;
9) месца жыхарства вылучанай асобы.

Пратакол павінен быць падпісаны старшынём і сакратаром схода.

**3. Вылучэнне шляхам падачы заявы грамадзян**

Грамадзяне, якія валодаюць выбарчым правам, маюць права вылучаць сваіх прадстаўнікоў у склад участковых выбарчых камісій шляхам падачы заявы.

Такая заява павінна быць падпісана не меньш чым 10 грамадзянамі, якія пражываюць на тэрыторыі дадзенага ўчастка для галасавання.

Пра асобу, якая вылучаецца ў камісію, павінны быць пададзеныя наступныя звесткі:
1) прозьвішча, імя, імя па бацьку;
2) дата нараджэння;
3) месца працы (занятак) і пасада;
4) месца жыхарства.

Грамадзяне, якія ставяць подпісы ў заяве, указваюць наступныя свае дадзеныя:
1) прозьвішча, імя, імя па бацьку;
2) дата нараджэння;
3) месца жыхарства.

Трэба памятаць, што выбаршчык можа падпісацца толькі адзін раз за вылучэнне прадстаўніка ў адпаведную выбарчую камісію.

Асоба, якая вылучаецца сябрам выбарчай камісіі, павінна таксама і пражываць на тэрыторыі адпаведнага выбарчага ўчастка.

*Пратаколы паседжанняў кіруючых органаў адпаведных арганізацыйных структур палітычных партый і іншых грамадскіх аб’яднанняў, сходаў (канферэнцый) працоўных калектываў ці заявы, падпісаныя грамадзянамі, павінны быць прадстаўлены ў органы, якія ўтвараюць камісіі, не пазней за 3 дні да ўстаноўленага Выбарчым кодэксам тэрміна стварэння камісіі (не пазней за 48 дзён да пачатку выбараў).*

Рашэнні аб фармаванні камісій з указаннем іх складу, месца знаходжання, нумароў тэлефонаў у сямідзённы тэрмін публікуюцца ў СМІ ці іншым чынам даводзяцца да ведама грамадзян (выбаршчыкаў).

Парадак фармавання ўчастковых выбарчых камісій, парадак дзеянняў з мэтай прысутнасці пры іх фармаванні, а таксама абскарджання неўключэння адпавядае працэдуры, якая прадугледжана і для фармавання акруговых выбарчых камісій. Адрозненнем з’яўляецца толькі тое, што пры абскарджанні неўключэння ва ўчастковую выбарчую камісію скарга падаецца ў раённы суд таго раёна, чый выканаўчы камітэт (адміністрацыя) прыняў рашэнне аб адмове.

**4. Дзеянні ўдзельнікаў маніторынга**

Збярыце інфармацыю пра колькасць вылучаных у склад участковых камісій прадстаўнкіоў дэмакратычных партый і недзяржаўных арганізацый і колькасць зацверджаных у склад камісій.

Атрымайце (набудзьце) мясцовае выданне з інфармацыяй пра склад участковых камісій (газету трэба будзе даслаць вашаму каардынатару).

Звярніце ўвагу, ці дадзеная інфармацыя была апублікавана ў тэрмін, прадугледжаны заканадаўствам.

Асобна адзначце выпадкі выхаду СМІ з дадзенай інфармацыяй абмежаваным накладам.

Адзначце, у якім аб’ёме змешчана інфармацыя пра склад участковых камісій (ці ўказаны шлях вылучэння і месца працы сяброў камісіі).

Прааналізуйце (калі гэта магчыма), наколькі склады камісій адрозніваюцца ад тых, якія працавалі на папярэдніх выбарах.

Збярыце інфармацыю (калі гэта магчыма) пра ўчастковыя камісіі, у якіх задзейнічаны адзін працоўны калектыў. Хто з’яўляецца старшынёй, намеснікам старшыні і сакратаром у такіх камісіях (ці знаходзяцца сябры камісій у працоўнай залежнасці ад кіраўніцтва камісій)? Якія шляхі вылучэння выкарыстоўвалі сябры камісіі?

## X. Перадвыбарчая агітацыя

### 1. Хто мае права агітаваць?

У адпаведнасці з арт. 45 ВК, права свабоднага і ўсеагульнага абмеркавання перадвыбарчых праграм кандыдатаў у дэпутаты, іх палітычных, дзелавых і асабістых якасцяў, правядзення агітацыі “за” ці “супраць” кандыдата на сходах, мітынгах, у сродках масавай інфармацыі прадстаўляецца:

а) грамадзянам Рэспублікі Беларусь;
б) палітычным партыям, іншым грамадскім аб’яднанням;
в) працоўным калектывам;
г) davераным асобам кандыдатаў у дэпутаты;
д) ініцыятыўным групам, якія праводзяць агітацыю за абранне кандыдатаў у дэпутаты.

### 2. Якія існуюць забароны?

1. Замежныя грамадзяне не маюць права прымаць удзелу ў агітацыі.
2. Згодна з арт. 47 ВК, агітацыйныя матэрыялы па выбарах, выступы на сходах, мітынгах, у друку, на тэлебачанні, радыё не павінны ўтрымліваць прапаганды вайны, заклікаў да гвалтоўных зменаў канстытуцыйнага ладу, парушэння тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь, абраз і паклёпу ў адносінах да службовых асоб Рэспублікі Беларусь, кандыдатаў у дэпутаты. Забараняецца агітацыя ці прапаганда сацыяльнай, расавай, нацыянальнай, рэлігійнай ці моўнай перавагі, выпуск і распаўсюд паведамленняў і матэрыялаў, якія распальваюць сацыяльную, расавую, нацыянальную ці рэлігійную варожасць.
3. Кандыдаты ў дэпутаты, іх давераныя асобы, арганізацыі і асобы, якія агітуюць “за” абранне кандыдатаў, не маюць права раздаваць грамадзянам грашовыя сродкі, падарункі і іншыя матэрыяльныя каштоўнасці, праводзіць ільготны распродаж

тавараў, бясплатна прадастаўляць любыя паслугі і тавары, акрамя агітацыйных друкаваных матэрыялаў, спецыяльна выраблены для выбарчай кампаніі з выкананнем патрабаванняў дзеючага выбарчага заканадаўства. Пры правядзенні передвыбарчай агітацыі забараняецца ўплываць на грамадзян абяцаннямі перадачы ім грашовых сродкаў, матэрыяльных каштоўнасцяў. Пры парушэнні дадзеных патрабаванняў акруговая ці Цэнтральная камісія могуць адмовіць у рэгістрацыі ў якасці кандыдата ці адмяніць рашэнне аб рэгістрацыі кандыдата.

4. Паводле ч. 9 арт. 48 Выбарчага кодэкса, палітычныя партыі, іншыя грамадскія аб’яднанні, арганізацыі, грамадзяне Рэспублікі Беларусь не маюць права аказваць іншую матэрыяльную дапамогу пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў, акрамя ўнясення грашовых сродкаў у пазабюджэтны фонд.
5. Частка 10 арт. 48 ВК забараняе прамы ці ўскосны ўдзел замежных дзяржаў, прадпрыемстваў, арганізацый, замежных грамадзян, міжнародных арганізацый, прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь з замежнымі інвестыцыямі ў фінансаванні і іншай матэрыяльнай дапамозе пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў. Выкарыстанне асобай, якая вылучаецца ў якасці кандыдата ў дэпутаты, кандыдатам у дэпутаты грашовых сродкаў ці іншай матэрыяльнай дапамогі ў парушэнне дадзенага патрабавання цягне за сабой адмову ў рэгістрацыі ці адмену рашэння аб рэгістрацыі ў якасці кандыдата ў дэпутаты.
6. Выбарчы кодэкс прадугледжвае права ўтвараць уласныя выбарчыя фонды кандыдатам у дэпутаты.

### 3. Паўнамоцтвы камісій падчас агітацыі

Згодна з п. 7 арт. 33 Выбарчага кодэкса, да паўнамоцтваў Цэнтральнай камісіі адносіцца забеспячэнне выканання роўных  прававых умоў передвыбарчай дзейнасці палітычных партый, іншых грамадскіх аб’яднанняў, кандыдатаў у дэпутаты.

Згодна ў п. п. 7, 8 арт. 42 Выбарчага кодэкса, акруговыя камісіі пры правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў ажыццяўляюць кантроль за выкананнем роўных прававых умоў передвыбарчай дзейнасці кандыдатаў у дэпутаты, спрыяюць кандыдатам у дэпутаты ў арганізацыі сустрэч з выбаршчыкамі.

### 4. У якіх формах ажыццяўляецца агітацыя?

Агітацыя ажыццяўляецца ў трох формах: 1) праз друкаваныя агітацыйныя матэрыялы; 2) праз сродкі масавай інфармацыі; 3) шляхам правядзення сустрэч з выбаршчыкамі і масавых мерапрыемстваў.

#### 4.1. Друкаваныя агітацыйныя матэрыялы

З моманту рэгістрацыі адпаведнай акруговай камісіяй кандыдаты ў дэпутаты маюць права на выраб передвыбарчых плакатаў, заклікаў, заяў, надпісаў, аркушоў, фотаматэрыялаў (далей – плакаты).

На аплату выдаткаў па вырабу плакатаў кандыдату ў дэпутаты выдзяляюцца сродкі з бюджэта ў памеры 50 базавых велічыняў.

Агітацыйныя друкаваныя матэрыялы павінны ўтрымліваць наступныя выходныя дадзеныя: назва і адрас арганізацыі (індывідуальнага прадпрымальніка), які вырабіў друкаваныя матэрыялы, нумар ліцэнзіі на паліграфічную дзейнасць і дату яе выдачы, наклад і нумар заказа. Агітацыйныя друкаваныя матэрыялы павінны вырабляцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Распаўсюд ананімных агітацыйных друкаваных матэрыялаў забараняецца.

Пры правядзенні выбараў мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы па ўзгадненні з адпаведнымі камісіямі выдзяляюць на тэрыторыі ўчасткаў для галасавання месцы, якія

найбольш наведваюцца грамадзянамі, для размяшчэння агітацыйных друкаваных матэрыялаў. Выканаўчыя і распарадчыя органы могуць забараніць размяшчаць друкаваныя матэрыялы ў не адведзеных для іх месцах.

Не дапускаецца зняццё, заклейванне, пашкоджанне плакатаў, калі гэтыя плакаты выраблены і размешчаны з выкананнем патрабаванняў заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Агітацыя (у тым ліку публічныя заклікі да байкатавання выбараў) у дзень галасавання не дапускаюцца. Агітацыйныя друкаваныя матэрыялы, якія раней былі вывешаны па-за памяшканнем для галасавання, захоўваюцца на ранейшых месцах.

<u>Інфармацыйныя матэрыялы пра кандыдатаў</u>

Пры правядзенні выбараў дэпутатаў адпаведная акруговая камісія вырабляе плакаты з біяграфічнымі дадзенымі кандыдатаў у дэпутаты, якія балатуюцца ў адной выбарчай акрузе, для размяшчэння на ўчастку для галасавання і ў іншых устаноўленых месцах. Выдаткі на гэтыя мэты ажыцяўляюцца за кошт сродкаў, выдзеленых з рэспубліканскага бюджэта на падрыхтоўку і правядзенне выбараў.

На ўсіх выбарчых участках для галасавання не пазней чым за 14 дзён да выбараў афармляюцца стэнды з такімі інфармацыйнамі матэрыяламі. Гэтыя стэнды захоўваюцца ў памяшканні для галасавання і ў дзень выбараў.

### 4.2. Агітацыя праз дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі

<u>Роўныя магчымасці для агітацыі</u>

Згодна з арт. 46 Выбарчага кодэкса, кандыдаты ў дэпутаты, палітычныя партыі, іншыя грамадскія аб’яднанні, працоўныя калектывы, грамадзяне, якія вылучылі кандыдатаў, з моманту рэгістрацыі кандыдатаў на роўных правах карыстаюцца дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі.

Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі і сродкі масавай інфармацыі, якія часткова фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэта, а таксама сродкі масавай інфармацыі, адным з заснавальнікаў якіх выступаюць дзяржаўныя органы ці арганізацыі, абавязаны забяспечваць роўныя магчымасці для перадвыбарчых выступаў кандыдатаў, правядзення агітацыі па выбарах.

<u>Праграма кандыдата ў дэпутаты</u>

Паводле арт. 75 Выбарчага кодэкса, кандыдат у дэпутаты мае права выступаць з праграмай сваёй будучай дзейнасці, тэкст якой вызначаецца кандыдатам. Праграма не павінна ўтрымліваць прапаганды вайны, заклікаў да гвалтоўнай змены канстытуцыйнага ладу, парушэння тэрытарыяльнай цэласнаці Рэспублікі Беларусь, сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці, абраз і паклёпу ў адносінах да службовых асоб Рэспублікі Беларусь, іншых кандыдатаў у дэпутаты. Пры парушэнні патрабаванняў дадзенага артыкула акруговая камісія мае права адмяніць рашэнне аб рэгістрацыі кандыдата.

Кандыдат у дэпутаты мае права надрукаваць у рэспубліканскім ці мясцовым друку сваю перадвыбарчую праграму аб’ёмам да двух машынапісных старонак, прадставіўшы тэкст праграмы не пазней чым за 20 дзён да выбараў (арт. 46 ВК). Пры апублікаванні праграм кандыдатаў у дэпутаты захоўваецца чарговасць іх паступлення.

<u>Выступ кандыдата на дзяржаўным тэлебачанні і радыё</u>

Кандыдаты ў дэпутаты маюць права на бяплатны выступ па дзяржаўным тэлебачанні і радыё. Эфірны час, выдзелены для агітацыі, павінен прыпадаць на перыяд, калі тэле- і радыёпраграмы збіраюць найбольшую аўдыторыю.

Парадак і колькасць выступаў кандыдатаў у дэпутаты па радыё і тэлебачанні вызначаецца Цэнтральнай камісіяй. Выступы кандыдатаў забяспечваюцца на роўных умовах.

Новай асаблівасцю парламенцкіх выбараў з’яўляецца права кандыдатаў у дэпутаты на тэлевізійныя дэбаты. З ліку ўсяго ліміту часу для выступу на тэлебачанні (радыё) Цэнтральная камісія вызначае асобны час для правядзення дэбатаў паміж кандыдатамі ў дэпутаты. Няўдзел кандыдатаў у дэпутаты ў дэбатах не павялічвае іх час на асабістыя

выступы па тэлебачанні (радыё). У дэбатах могуць выступаць як самі кандыдаты, так і ўпаўнаважаныя імі давераныя асобы. Заканадаўства не ўтрымлівае тлумачэння, як і дзе адбываюцца дэбаты, ці транслююцца яны як па радыё, так і па тэлебачанні, адбываюцца яны ў прамым эфіры ці робіцца запіс такіх дэбатаў. Парадак правядзення дэбатаў павінен будзе вызначаны Пастановай Цэнтральнай камісіі.

**4.3. Правядзенне сустрэч з выбрашчыкамі і масавыя мерапрыемствы**

У параўнанні з мінулымі парламенцкімі выбарамі ў магчымасцях выкарыстання такой формы агітацыі, як масавыя мерапрыемствы, адбыліся істотныя змены.

Згодна ч. 6 арт. 45 Выбарчага кодэкса, кандыдаты ў дэпутаты могуць праводзіць сустрэчы са сваімі выбаршчыкамі на сходах ці ў іншай зручнай для выбаршчыкаў форме.

Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы сумесна з адпаведнымі камісіямі абавязаны ствараць умовы для правядзення сустрэч кандыдатаў у дэпутаты з выбаршчыкамі.

У адпаведнасці з ч. 9 арт. 45 і арт. 45.1 Выбарчага кодэкса, кандыдаты ў дэпутаты, іх давераныя асобы маюць права на арганізацыю і павядзенне масавых мерапрыемстваў у выглядзе сходаў па-за памяшканнямі, мітынгаў, пікетаванняў. Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы па ўзгадненні з адпаведнымі выбарчымі камісіямі вызначаюць месцы для правядзення такіх мерапрыемстваў.

З пачаткам перыяду агітацыі кандыдат у дэпутаты, яго давераная асоба можа накіраваць у мясцовы орган улады паведамленне аб масавым мерапрыемстве не пазней чым за 2 дні да даты яго правядзення. У такім паведамленні павінна быць указана форма масавага мерапрыемства, месца яго правядзення, дата, час пачатку і сканчэння, прозвішча, імя, імя па бацьку, месца жыхарства, нумар тэлефона заяўляльніка, дата падачы паведамлення. У выпадку, калі іншым кандыдатам ці ягонай даверанай асобай раней ужо было пададзена паведамленне аб правядзенні масавага мерапрыемства на той жа час і месца, а аб правядзенні сумеснага няма дамоўленасці, мясцовы орган улады павінен на працягу аднаго дня з моманту атрымання пазнейшага паведамлення прапанаваць заяўляльніку змяніць час альбо месца правядзення.

*Усе іншыя формы масавых мерапрыемстваў, звязаныя з ажыццяўленнем перадвыбарчай агітацыі, праводзяцца ў межах Закона Рэспублікі Беларусь аб масавых мерапрыемствах. Гэта датычыць у першую чаргу правядзення мерапрыемстваў за байкот выбараў.*

Для сустрэч кандыдатаў у дэпутаты, іх давераных асоб з выбаршчыкамі мясцовымі органамі ўлады па ўзгадненні з акруговымі выбарчымі камісіямі прадстаўляюцца памяшканні. Такія сустрэчы могуць праводзіцца як асобным кандыдатам, так і супольна некалькімі кандыдатамі, якія балатуюцца па адной выбарчай акрузе.

*Ініцыятары байкоту могуць праводзіць сустрэчы з выбаршчыкамі ў такіх памяшканнях, паколькі арт. 45 Выбарчага кодэкса прадугледжвае іх выкарыстанне для перадвыбарчых сходаў, якія арганізуюцца выбаршчыкамі.*

Прадстаўленне іншых памяшканняў для мэтаў перадвыбарчай агітацыі можа ажыццяўляцца кіраўнікамі арганізацый па просьбе кандыдатаў у дэпутаты ці іх давераных асоб, груп грамадзян. Памяшканні для сустрэч з выбаршчыкамі прадстаўляюцца бясплатна.

За кошт асабістага выбарчага фонду кандыдат у дэпутаты, яго давераныя асобы могуць таксама арэндаваць і іншыя памяшканні для правядзення сустрэч з выбаршчкамі.

**4.4. Асабістыя выбарчыя фонды кандыдатаў у дэпутаты**

Пры правядзенні выбараў дэпутатаў максімальны памер сродкаў асабістага фонду не можа быць больш за 1000 базавых велічынь.

**Фонд можа фармавацца:**

1. з асабістых сродкаў кандыдата, максімальны памер якіх не можа перавышаць 20 базавых велічынь;
2. дабраахвотных ахвяраванняў грамадзян Рэспублікі Беларусь; пры гэтым максімальны памер ахвяравання аднаго грамадзяніна не можа перавышаць 5 базавых велічынь;
3. ахвяраванняў юрыдычных асоб; пры гэтым максімальны памер ахвяравання адной юрыдычнай асобы не можа перавышаць 10 базавых велічынь.

**Фонд не можа фармавацца за кошт ахвяраванняў:**

1. замежных дзяржаў і арганізацый;
2. замежных грамадзян і асоб без грамадзянства;
3. міжнародных арганізацый;
4. арганізацый з замежнымі інвестыцыямі;
5. арганізацый, якія напрацягу года атрымлівалі безвыплатную замежную дапамогу, дапамогу ад замежных арганізацый, грамадзян, асоб без грамадзянства;
6. асобы, якая не дасягнула 18 гадоў;
7. дзяржаўнага органа, органа мясцовага самакіравання;
8. арганізацый, якія цалкам ці часткова фінансуюцца з бюджэта;
9. арганізяцый, якія былі зарэгістраваны меньш чым за адзін год да ахвяравання;
10. дабрачынных і рэлігійных арганізацый;
11. ананімных ахвярадаўцаў.

**Сродкі з ўласнага фонда могуць выкарыстоўвацца на аплату:**

1. эфірнага часу і друку матэрыялаў у СМІ;
2. арэнды памяшканняў, абсталявання, транспартных сродкаў, паслуг сувязі;
3. агітацыйных друкаваных матэрыялаў;
4. кансультацыйных і агітацыйных работ;
5. канцэлярскіх тавараў і іншых выдаткаў, наўпрост звязаных з вядзеннем агітацыі.

Фонд можа пачаць фармавацца толькі з моманту адкрыцця кандыдатам у дэпутаты рахунка ў аддзяленні ААТ “Беларусбанк”.

Паколькі фармаванне фонда пачынаецца з моманту рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты, а перыяд агітацыі займае толькі адзін месяц, можна меркаваць, што такая форма прыцягнення сродкаў не будзе мець масавага характарау. Пры гэтым трэба звяртаць увагу на тое, каб стварэнне такіх фондаў не з’яўлялася формай выкарыстання адміністратыўнага рэсурсу для падтрымкі праўладных кандыдатаў.

## XI. Галасаванне

Выбарчы кодэкс прадугледжвае магчымасць:

1) датэрміновага галасавання;
2) галасавання на выбарчым участку;
3) галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў.

**1. Датэрміновае галасаванне**

Згодна з арт. арт. 51, 53 ВК, выбаршчык, які не мае магчымасці ў дзень выбараў знаходзіцца па месцы свайго жыхарства, мае права не раней чым за 5 дзён да выбараў ва ўмовах, якія выключаюць кантроль за ягоным волевыяўленнем, запоўніць у памяшканні ўчастковай камісіі бюлетэнь і апусціць яго ў апячатаную асобную скрыню для галасавання. Афіцыйнага пацверджання прычын немагчымасці выбаршчыка прыйсці ў памяшканне для галасавання ў дзень выбараў не патрабуецца.

Датэрміновае галасаванне ажыццяўляецца з 10 да 14 гадзін і з 16 да 19 гадзін у прысутнасці не меней чым двух сяброў участковай камісіі ў спецыяльна адведзеных памяшканнях, дзе павінны быць абсталяваны ў дастатковай колькасці кабіны ці пакоі для таемнага галасавання, вызначаны месцы выдачы бюлетэняў і ўсталяваны скрыні для галасавання. Скрыні для галасавання ўсталёўваюцца такім чынам, каб галасуючыя пры падыходзе да іх абавязкова праходзілі праз кабіны ці пакоі для таемнага галасавання. Скрыні для галасавання павінны знаходзіцца ў полі зроку сяброў участковай камісіі і назіральнікаў.

Пры атрыманні бюлетэня выбаршчык уласнаручна распісваецца ў спісе грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах, і ўказвае дату датэрміновага галасавання.

У першы дзень датэрміновага галасавання спачатку скрыні для галасавання правяраюцца, пламбіруюцца ці апячатваюцца старшынёй участковай камісіі ў прысутнасці не меней чым двух трацін складу камісіі.

У адпаведнасці з арт. 53 Выбарчага кодэксу, пасля сканчэння кожнага дня галасавання старшыня ўчастковай выбарчай камісіі ці яго намеснік заклейваюць проразь для апускання бюлетэняў аркушом паперы. На аркушы ставяцца подпісы старшыні камісіі альбо яго намесніка, а таксама аднаго з сяброў камісіі. Пры заклейванні, а таксама ўскрыцці заклеенай проразі маюць права прысутнічаць назіральнікі.

Кожны дзень па сканчэнні галасавання старшыня камісіі альбо яго намеснік складаюць пратакол, дзе ўказваюць:

1. колькасць атрыманых камісіяй бюлетэняў;
2. колькасць выбаршчыкаў, якія атрымалі бюлетэні для датэрміновага галасавання.

У апошні дзень датэрміновага галасавання ў пратаколе ўказваецца агульная лічба прагаласаваўшых датэмінова на выбарчым участку, колькасць сапсаваных бюлетэняў і колькасць невыкарыстаных. Пратакол падпісваецца старшыней альбо намеснікам старшыні камісіі і вывешваецца на выбарчым участку.

Захаванне скрыняў для галасавання і выбарчых бюлетэняў абавязаны забяспечыць старшыня ўчастковай выбарчай камісіі.

### 1.1. На што звяртаць увагу?

Участак для галасавання павінен быць адчынены своечасова ў 10.00 гадзін і зачынены роўна ў 19.00 або пасля сыходу апошняга выбаршчыка, які прыйшоў на ўчастак да 19.00. У памяшканні ўчастка для галасавання забаронена знаходжанне пабочных асоб (міліцыянера, сяброў вышэйстаячых камісій, супрацоўнікаў выканкама, настаўнікаў і кіраўніцтва школы, калі ўчастак знаходзіцца ў яе памяшканні і г.д.), акрамя сяброў выбарчай камісіі, саміх выбаршчыкаў і назіральнікаў. Неабходна звярнуць увагу, ці мае нехта з пабочных асоб доступ на выбарчы ўчастак з 14.00 да 16.00 гадзін.

Неабходна адзначаць, ці пыталіся сябры выбарчай камісіі пра прычыны прыходу выбаршчыкаў на датэрміновае галасаванне, а таксама фіксаваць выпадкі арганізаванага прыходу на выбарчы ўчастак работнікаў арганізацый і прадпрыемстваў, студэнтаў і г.д.

**Апячатванне скрыні для галасавання**

Пачынаць назіранне неабходна як мінімум за гадзіну (паўгадзіны) да афіцыйнага пачатку датэрміновага галасавання. Папярэдне можна ўзгадніць са сташынёй участковай камісіі больш дакладны час апячатвання скрыні для датэрміновага галасавання, але прыйсці варта раней названага тэрміну, каб да прыходу назіральнікаў скрыня не была ўжо апячатана.

Назіральнік павінен пераканацца, што да апячатвання ў скрыні для галасавання нічога не было. Варта (па магчымасці) агледзець скрыню для галасавання і высветліць, ці магчыма адчыніць яе без парушэння цэласнасці пячаткі, напрыклад, адкруціць ці лёгка зняць ніжнюю крышку. Пры выяўленні такога назіральнік можа папрасіць старшыню камісіі апячатаць і ніжнюю крышку скрыні для галасавання.

Варта кантралаяваць, як заклейваецца проразь скрыні для галасавання, а таксама працэдуру яе распячатвання ў кожны дзень датэрміновага галасавання.

*Неабходна звярнуць увагу на захаванне скрыняў пасля сканчэння кожнага дня датэрміновага галасавання, а таксама падчас перапынку на абед.*

**Інфармацыйныя матэрыялы**

У памяшканні для галасавання павінны знаходзіцца плакаты з біяграфічнымі дадзенымі кандыдатаў, а таксама стэнды з інфармацыйнымі матэрыяламі пра іх. Неабходна звярнуць увагу, каб на стэндах прысутнічала інфармацыя пра ўсіх зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты.

Варта звярнуць увагу, ці вылучаюцца на інфармацыйных стэндах і агульных плакатах дадзеныя кагосці з кандыдатаў: ёсць адмысловы знак ці размяшчэнне, большая колькасць матэрыялаў у параўнанні з іншымі і г.д.

**Выдача бюллетэняў**

Бюлетэнь для галасавання выдаецца выбаршчыку пасля прад’яўлення пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь ці іншага дакумента, вызначанага Цэнтральнай камісіяй.

Падчас апошніх выбараў выбаршчык для атрымання бюлетэня мог прадставіць практычна любы дакумент з фотаздымкам, які сведчыў пра яго асобу (пенсійнае пасведчанне, студэнцкі білет, пасведчанне супрацоўніка дзяржаўнага органа, вайсковы білет (для вайскоўцаў тэрміновай службы), даведку органаў унутраных спраў (для грамадзян, што страцілі пашпарт альбо якія здалі яго на абмен)).

Трэба памятаць, што дадатковае ўнясенне ў спісы выбаршчыкаў пры прадстаўленні дакумента, які не сведчыць пра месца жыхарства асобы (пашпарта), забаронена.

Варта сачыць, каб выбаршчыку не выдавалася больш аднаго бюлетэня як па адным, так і па некалькіх дакументах, а тым больш – без прад’яўлення дакумента, які сведчыць пра яго асобу.

Парушэннем выбарчага заканадаўства лічыцца так званае “сямейнае галасаванне”, пры якім у кабіне для галасавання знаходзяцца два і больш чалавекі.

Выбаршчык, які не мае магчымасці самастойна запоўніць бюлетэнь, мае права запрасіць у кабіну або пакой для таемнага галасавання іншую асобу па сваім жаданні, акрамя сяброў участковай і вышэйстаячых камісій і назіральнікаў.

**1.2. Што можна зрабіць для прадухілення парушэння**

а) сфатаграфаваць апячатаную скрыню для датэрміновага галасавання перад пачаткам галасавання, пасля завяршэння датэрміновага галасавання і перад пачаткам галасавання ў дзень выбараў. Фармальна фатаграфаваць можна толькі з дазволу старшыні камісіі, для гэтага можна выкарыстаць як лічбавы фотаапарат, так і фотаапарат сотавага тэлефона. Параўнанне размяшчэння пячатак, наклееных аркушоў на скрыні можа выкрыць незаконнае яе ўскрыццё.

Для большай гарантыі таго, што скрыня для датэрміновага галасавання не будзе ўскрыта пры захоўванні ў адсутнасці назіральніка, ён можа прапанаваць сябрам выбарчай камісіі паставіць і свой подпіс на палоскі паперы, якімі апячатваецца гэтая скрыня і пакой для яе захоўвання.

б) падлічыць колькасць выбаршчыкаў падчас датэрміновага галасавання і параўнаць гэтую велічыню з выніковай лічбай, унесенай у пратакол участковай камісіі.

**2. Галасаванне ў дзень выбараў на ўчастку**

Правілы правядзення галасавання на ўчастку ў дзень выбараў аналагічныя тым, якія выкарыстоўваюцца пры датэрміновым галасаванні.

**2.1. Агульныя прынцыпы назірання**

Назіранне на ўчастку ў дзень галасавання неабходна пачынаць не пазней 7.30 – да моманту апячатвання скрыняў для галасавання. Неабходна ўпэўніцца, што да апячатвання

скрыні былі пустымі, а апячатванне праведзена такім чынам, якое выключае магчымасць ускрыцця крышкі без пашкоджання пячаткі. Пры апячатванні павінны прысутнічаць не меньш двух трацін ад агульнага складу камісіі.

Перад пачаткам галасавання неабходна даведацца пра колькасць бюлетэняў, атрыманых камісіяй, агульную колькасць выбаршчыкаў на ўчастку, колькасць выбаршчыкаў, якія прагаласавалі датэрмінова. Калі старшыні камісій адмаўляюцца прадставіць назіральнікам такія звесткі, не паведамляюць у далейшым дадзеных пра ход галасавання, гэта неабходна адзначаць як парушэнне прынцыпу галоснасці і адкрытасці выбараў.

Назіральнік павінен знаходзіцца на вызначаным яму месцы. Пры гэтым месца яго знаходжання павінна забяспечыць магчымасць назірання за дзеяннямі камісіі і скрынямі для галасавання.

Усе камунікацыі з камісіяй назіральнік здзяйсняе толькі праз старшыню або яго намесніка.

Пажадана, каб адначасова некалькімі назіральнікамі ажыццяўляўся ўласны падлік прагаласаваўшых выбаршчыкаў са складаннем пасля завяршэння галасавання адпаведнага акту.

**2.2. На што звяртаць увагу?**

1) скрыні для галасавання, у тым ліку для датэрміновага і галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў, павінны пастаянна знаходзіцца ў полі зроку назіральніка (ч.1 арт.51 ВК);

2) галасаванне аднаго выбаршчыка за іншага або “галасаванне” сяброў камісіі за выбаршчыкаў, якія не прыйшлі на галасаванне, не дапускаецца (ч.1 арт.52 ВК);

3) бюлетэні павінны быць падпісаны як мінімум двума сябрамі выбарчай камісіі (ч.4 арт.72 ВК);

4) выбарчыя бюлетэні сябры камісіі павінны выдаваць выбаршчыку пад роспіс і толькі пасля прад’яўлення пашпарта ці пасведчання асобы, якое яго замяняе (ч.2 атр.52 ВК). Забараняецца выдаваць выбаршчыкам па некалькі бюлетэняў (за іншых членаў сям'і, сяброў, знаёмых і г.д.);

5) бюлетэнь выбаршчык павінен запаўняць толькі ў кабінцы або пакоі для таемнага галасавання, пры запаўненні бюлетэня забараняецца прысутнасць каго б то ні было, акрамя самога галасуючага (ч.3 арт.52 ВК);

6) калі выбаршчык сапсаваў бюлетэнь, то яму выдаецца новы, а сапсаваны пагашаецца, і ў спісе выбаршчыкаў насупраць прозвішча выбаршчыка, які дапусціў памылку, робіцца пра гэта адмысловая адзнака (ч.9 арт.52 ВК);

7) на ўчастку не павінны знаходзяцца пабочныя асобы (прадстаўнікі адміністрацыі працоўных калектываў, супрацоўнікі выканкамаў, кіраўнікі прадпрыемстваў, якія вылучылі прадстаўнікоў ва ўчастковую камісію, сябры вышэйстаячых выбарчых камісій і г.д).

**2.3. Найбольш распаўсюджаныя метады фальсіфікацый**

Фальсіфікацыі на ўчастку патрабуюць укідвання ў скрыню для галасавання бюлетэняў са зробленай адзнакай за “патрэбнага” кандыдата.

*1. Укідванне ў скрыню для галасавання вялікай колькасці загадзя падрыхтаваных бюлетэняў.*

Гэты метад найбольш вядомы і паддаецца кантролю, асабліва калі скрыня для галасавання знаходзіцца ў полі зроку назіральніка.

Метад патрабуе адэкватнага прастаўлення адзнакі аб галасаванні ў спісах выбаршчыкаў сябрамі выбарчых камісій і ўзгодненай працы гэтых сяброў камісіі з міліцыяй і адміністрацыяй.

*2. Выкарыстанне брыгады “выбаршчыкаў”.*

Сутнасць метада заключаецца ў тым, што сфармаваная брыгада “выбаршчыкаў” у колькасці 10-15 чалавек атрымлівае на ўчастку па прад’яўленні сваіх пашпартоў бюлетэні за “мёртвых душ” ці звычайна не галасуючых выбаршчыкаў, галасуе за вызначанага кандыдата і перамяшчаецца для галасавання на наступны ўчастак.

*3. Выдача некалькіх бюлетэняў для галасавання аднаму чалавеку.*

Звычайна некалькі бюлетэняў выдаюцца выбаршчыку за членаў сям’і, знаёмых і г.д. з разлікам, што тыя прагаласавалі б такім жа чынам, альбо аднаму чалавеку са свядомай мэтай скажэння вынікаў галасавання.

*4. “Дысцыплінарнае галасаванне”.*

Галасаванне на “спецучастках” (бальніцы, вайсковыя часткі), якое часта цалкам вызначаецца адміністрацыяй гэтых установ. На ўчасткі арганізавана прывозяць або прыводзяць выбаршчыкаў з указаннем, за каго трэба галасаваць.

*5. Галасаванне “мёртвых душ”.*

Праводзіцца ў апошнія гадзіны галасавання сябрамі выбарчых камісій за неіснуючых выбаршчыкаў або за выбаршчыкаў, якія стала ігнаруюць удзел у выбарах. З’яўляецца найбольш распаўсюджаным метадам.

## 3. Галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыкаў

У адпаведнасці з арт. 54 Выбарчага кодэкса, участковая камісія абавязана забяспечыць магчымасць удзельнічаць у галасаванні выбаршчыкам, якія па стане здароўя або па іншых уважлівых прычынах не могуць прыйсці ў дзень выбараў у памяшканне для галасавання. Для гэтых мэтаў ва ўчастковай камісіі павінна быць не больш за тры пераносныя скрыні для галасавання.

Пісьмовыя або вусныя просьбы выбаршчыкаў аб арганізацыі галасавання па месцы іх знаходжання заносяцца ў адмысловы спіс, у якім указваюцца ўстаноўленыя дадзеныя пра гэтых асобаў і які падпісваецца старшынёй або сакратаром участковай камісіі. Пры гэтым афіцыйнага пацверджання прычын немагчымасці прыйсці ў памяшканне для галасавання не патрабуецца.

Выбаршчыкі могуць звярнуцца з просьбай аб арганізацыі галасавання па месцы іх знаходжання ў любы час пасля стварэння ўчастковай камісіі, а ў дзень галасавання – не пазней чым за дзве гадзіны да заканчэння галасавання.

Сябры ўчастковай камісіі атрымліваюць пад роспіс бюлетэні ў колькасці, якая адпавядае колькасці просьбаў выбаршчыкаў, пры гэтым галасаванне арганізуецца не менш чым двума сябрамі ўчастковай камісіі.

Для арганізацыі галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў старшыня або сакратар участковай камісіі з асноўнага спісу грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах, выпісвае ў асобны ўкладны ліст усе дадзеныя пра гэтых асоб і падпісвае яго. У гэтым укладным лісце выбаршчыкі, якія галасуюць па месцы свайго знаходжання, пры атрыманні бюлетэня ўласнаручна распісваюцца. Затым у асноўным спісе ставіцца адзнака, што гэтыя асобы прагаласавалі па месцы свайго знаходжання. Укладныя лісты павінны захоўвацца разам з асноўным спісам выбаршчыкаў.

Працэдура галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў павінна быць аналагічнай правілам, устаноўленым для галасавання на ўчастку для галасавання.

### 3.1. Што важна падчас назірання?

Арганізацыя назірання за галасаваннем па месцы знаходжання выбаршчыкаў выклікае вялікія цяжкасці, паколькі патрабуе дадатковых арганізацыйных выдаткаў і людскіх рэсурсаў.

Станоўчым момантам для назіральніка з’яўляецца тое, што працэдура галасавання па месцы знаходжання выбаршчыка даволі падрабязна прапісана ў арт.54 Выбарчага кодэкса, і Ваша задача – дамагчыся ад выбарчай камісіі яе выканання.

Назіральнік мае права знаёміцца са спісам выбаршчыкаў, якія галасуюць па месцы знаходжання, а таксама з колькасцю бюлетэняў, якія бяруць сябры камісіі, якія суправаджаюць пераносныя скрыні для галасавання.
Пасля вяртання сяброў выбарчай камісіі назіральнік павінен прасачыць, каб у асноўным спісе грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах, абавязкова была зроблена пазнака аб выбаршчыках, якія прагаласавалі па месцы свайго знаходжання.
Патрабаванне прытрымлівацца працэдуры можа дапамагчы назіральніку пры падліку галасоў. Справа ў тым, што бюлетэні, якія знаходзяцца ў пераносных скрынях, павінны падлічвацца асобна, і калі ў якой-небудзь з іх колькасць бюлетэняў акажацца большай, чым колькасць зафіксаваных просьбаў выбаршчыкаў, то ў гэтым выпадку назіральнік можа запатрабаваць, каб усе бюлетэні з гэтай скрыні былі прызнаны несапраўднымі.

**3.2. Магчымыя парушэнні**
Найбольш распаўсюджанае парушэнне – замена бюлетэняў прагаласаваўшых выбаршчыкаў на падрыхтаваныя “пад патрэбнага кандыдата” як падчас руху ў выбарчую камісію, так і падчас правядзення самога галасавання.
Бываюць выпадкі, што сябры камісіі наогул не з’яўляюцца да выбаршчыкаў, а прыязджаюць у вызначанае месца, распісваюцца за выбаршчыкаў і запаўняюць скрыні падрыхтаванымі бюлетэнямі.

## XII. Падвядзенне вынікаў галасавання на ўчастку

У адпаведнасці з арт.55 Выбарчага кодэкса, скрыні для галасавання адчыняюцца ўчастковай камісіяй толькі пасля сыходу апошняга выбаршчыка з памяшкання выбарчага ўчастка і абвяшчэння старшынёй камісіі аб завяршэнні галасавання.

**1. Працэдура падліку**

**1.1. Падлік нявыкарыстаных бюлетэняў**
Перад ускрыццём скрынь для галасавання ўсе нявыкарыстаныя бюлетэні па выбарах падлічваюцца і пагашаюцца, а таксама агалошваецца іх колкасць. Затым яны складаюцца ў пакункі і апячатваюцца ўчастковай камісіяй. Спосаб пагашэння бюлетэняў вызначаецца ўчастковай камісіяй. На пакунках пішацца назва і нумар участка, колькасць нявыкарыстаных бюлетэняў. Пакункі падпісваюцца старшынёй і сакратаром участковай камісіі ў прысутнасці сяброў камісіі.

**1.2. Чарговасць ускрыцця скрынь для галасавання**
Ускрыццё скрынь для галасавання і падлік галасоў ажыццяўляецца па чарзе: спачатку падлічваюцца бюлетэні, якія знаходзяцца ў скрыні, што выкарыстоўвалася пры датэрміновым галасаванні, затым – якія знаходзяцца ў пераносных скрынях, што выкарыстоўваліся пры галасаванні па месцы знаходжання выбаршчыкаў, і пасля гэтага – у скрынях для галасавання, якія размяшчаліся ў дзень выбараў у памяшканні ўчастка для галасавання.
**Вынікі падліку галасоў па кожнаму з відаў галасавання агалошваюцца старшынём камісіі.**

**1.3. Парадак падліку галасоў**
Падлік галасоў выбаршчыкаў праводзіцца непасрэдна сябрамі ўчастковай камісіі без перапынку да атрымання вынікаў галасавання.
Падлік галасоў на ўчастку для галасавання ажыццяўляецца асобна па кожным кандыдаце ў дэпутаты.

Участковая камісія па спісе грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах, устанаўлівае агульную колькасць выбаршчыкаў на ўчастку, а таксама колькасць выбаршчыкаў, што атрымалі бюлетэні.

На падставе бюлетэняў, якія знаходзіліся ў скрынях для галасавання, участковая камісія спачатку паасобна, а затым сумуючы дадзеныя, устанаўлівае:

– агульную колькасць выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні;
– колькасць галасоў, пададзеных за кожнага кандыдата ў дэпутаты;
– колькасць галасоў, пададзеных супраць усіх кандыдатаў у дэпутаты;
– колькасць бюлетэняў, прызнаных несапраўднымі.

Уносіць змены ў спісы грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах, пасля пачатку падліку галасоў забараняецца.

**1.4. Якія бюлетэні прызнаюцца несапраўднымі?**

– неўстаноўленага ўзору;
– на адваротным баку якіх адсутнічаюць подпісы сяброў участковай камісіі;
– у якіх знак пастаўлены больш чым ў адным квадраце,
або не пастаўлены ні ў адным з іх.

У выпадку ўзнікнення сумненняў у сапраўднасці бюлетэня пытанне вырашаецца ўчастковай камісіяй шляхам галасавання. Пры гэтым на адваротным баку кожнага з такіх бюлетэняў робіцца запіс аб прызнанні яго сапраўдным альбо несапраўдным. Гэты запіс павінен быць засведчаны подпісамі не меней двух сяброў участковай камісіі. Несапраўдныя бюлетэні пакуюцца асобна.

**1.5. Выніковы пратакол**

Вынікі падліку галасоў разглядаюцца на паседжанні ўчастковай камісіі і заносяцца ў пратакол. Не дапускаецца запаўненне пратакола алоўкам і ўнясенне ў яго выпраўленняў. Пратакол падпісваецца старшынёй, намеснікам старшыні, сакратаром і сябрамі камісіі.

Пратакол пасля падпісання неадкладна асабіста старшынёй або намеснікам старшыні, або сакратаром участковай камісіі накіроўваецца ў акруговую камісію, а таксама ў орган, які ўтварыў камісію, для інфармацыі.

Да пратакола, накіраванага ў акруговую камісію, прыкладаюцца, калі яны маюцца, адмысловыя меркаванні сяброў камісіі, заявы давераных асоб кандыдатаў і іншых асоб аб парушэннях, дапушчаных падчас галасавання або пры падліку галасоў, і прынятыя па іх рашэнні камісіі.

Копія пратакола пасля яго падпісання вывешваецца для ўсеагульнага азнаямлення ў месцы, вызначаным камісіяй.

**2. Агульныя прынцыпы назірання**

Назіральнік не мае права прымаць удзелу ў падліку галасоў, галоўная яго задача – уважліва сачыць за працай выбарчай камісіі, паслядоўна весці запісы вынікаў падліку.

Назіральнік павінен зрабіць усё магчымае, каб пры падліку галасоў знаходзіцца на такой адлегласці, якая б давала яму магчымасць аглядаць (бачыць) змест выбарчых бюлетэняў. У законе не абумоўлена такое права назіральніка, але і няма такой забароны.

**Асаблівую ўвагу назіральнік павінен звярнуць на “арыфметыку” пры падліку бюлетэняў:** калі ад агульнай колькасці атрыманых участковай камісіяй бюлетэняў адняць 1. бюлетэні, атрыманыя выбаршчыкамі пры датэрміновым галасаванні; 2. бюлетэні, атрыманыя выбаршчыкамі, якія прагаласавалі па месцы свайго знаходжання; 3. бюлетэні, атрыманыя выбаршчыкамі, што прагаласавалі ў дзень выбараў на выбарчым участку; 4. бюлетэні, сапсаваныя выбаршчыкамі, то павінна атрымаецца лічба, роўная колькасці нявыкарыстаных бюлетэняў, якія засталіся ў выбарчай камісіі. У выпадку разыходжання

паміж гэтымі лічбамі варта запатрабаваць пераправеркі вынікаў галасавання на дадзеным выбарчым участку.
Пасля вызначэння канчатковых вынікаў галасавання па дадзеным выбарчым участку назіральнік павінен вырабіць копію пратакола аб выніках галасавання ўласнымі сіламі і сродкамі (лепш за ўсё, калі гэтая копія будзе выробленая шляхам фатаграфавання яе на лічбавы фотаапарат або на сотавы тэлефон). Без копій пратаколаў з выбарчых участкаў немагчыма пераканацца ў правільнасці абвешчаных акруговай камісіяй вынікаў выбараў.

**3. Магчымыя парушэнні**

*1) Пагашэнне нявыкарыстаных бюлетэняў пасля падліку галасоў.*
Пасля падліку галасоў пагашаюцца нявыкарыстаныя бюлетэні, робіцца бачнасць іх падліку. У далейшым іх колькасць прыводзіцца ў адпаведнасць з пратаколам пры перавозцы ў вышэйстаячую камісію або не прыводзіцца ў адпаведнасць з пратаколам наогул, паколькі пералічэнне бюлетэняў малаверагодна.
*2) Сумесны падлік бюлетэняў з усіх скрыняў для галасавання.*
Не падлічваюцца асобна галасы грамадзян спачатку са скрыні для датэрміновага галасавання, затым са скрыняў прагаласаваўшых па месцы знаходжання і толькі затым з асноўных скрыняў на ўчастку для галасавання. Пры такім падліку назіральнікі не могуць заўважыць як неадпаведнасць колькасці бюлетэняў у скрынях дадзеным са спісаў прагаласаўшых, так і магчымую розніцу ў меркаваннях прагаласаваўшых датэрмінова ці па месцы знаходжання з меркаваннем выбаршчыкаў, якія галасавалі на ўчастку.
*3) Маўклівы падлік бюлетэняў.*
Сябры выбарчых камісій атрымліваюць свой стос бюлетэняў, падлічваюць іх, раскладаюць па стопках, запісваюць вынікі на лісце паперы і перадаюць іх старшыні камісіі. Пасля гэтага старшыня моўчкі сумуе гэтыя дадзеныя і вынікі заносіць у пратакол, які падпісваецца сябрамі камісіі. Пры гэтым старшыня можа напісаць у пратаколе любую лічбу.
*4) Перакладанне бюлетэняў са стоса аднаго кандыдата ў стос іншага.*
Ва ўмовах, калі назіральнікі знаходзяцца на адлегласці 7-10 метраў ад стала падліку галасоў і не могуць бачыць змест бюлетэня, у стос “патрэбнага кандыдата” перакладаецца неабходная для яго перамогі колькасць бюлетэняў ад іншага кандыдата.
*5) Запаўненне выніковага пратакола алоўкам.*
Для таго, каб потым сцерці ранейшыя лічбы ў пратаколе і напісаць патрэбныя дадзеныя. Дадзены спосаб не патрабуе паўторнага падпісання пратаколу аб выніках галасавання сябрамі камісіі.
*6) Бачнасць падліку галасоў.*

Сябры камісіі робяць выгляд, што падлічваюць галасы, а старшыня робіць выгляд, што чакае іх падліку. Пасля гэтага ў пратакол заносяцца загадзя падрыхтаваныя лічбы. Можа быць рэалізавана толькі ў тым выпадку, калі сябры выбарчых камісій атрымліваюць поўную гарантыю беспакаранасці за свае дзеянні пры немагчымасці назіральнікам адсачыць сітуацыю.
*7) Падпісанне сябрамі камісіі чыстага пратакола.*
Пасля гэтага старшынёй камісіі “без лішніх тлумачэнняў” уносяцца патрэбныя дадзеныя пра вынікі галасавання.

# XIII. Устанаўленне вынікаў выбараў па выбарчай акрузе

Вынікі выбараў па выбарчай акрузе ўстанаўліваюцца на паседжанні акруговай выбарчай камісіі.

## 1. Працэдура ўстанаўлення вынікаў выбараў акруговай камісіяй

У адпаведнасці з арт.82 Выбарчага кодэкса, на падставе пратаколаў, атрыманых ад участковых выбарчых камісій, акруговая выбарчая камісія ўстанаўлівае:
– агульную колькасць выбаршчыкаў па акрузе;
– колькасць выбаршчыкаў, якія атрымалі бюлетэні;
– колькасць выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні;
– колькасць галасоў, пададзеных за кожнага кандыдата ў дэпутаты, і колькасць галасоў, пададзеных супраць усіх;
– колькасць бюлетэняў, прызнаных несапраўднымі;
– колькасць бюлетэняў, выдадзеных участковым выбарчым камісіям;
– колькасць сапсаваных бюлетэняў;
– колькасць нявыкарыстаных бюлетэняў.
*Абраным у першым туры выбараў па выбарчай акрузе лічыцца кандыдат у дэпутаты, які атрымаў больш за палову галасоў выбаршчыкаў, прыняўшых удзел у галасаванні, калі выбары прызнаны адбыўшыміся.*
Выбары прызнаюцца адбыўшыміся, калі ў галасаванні прынялі ўдзел больш за палову выбаршчыкаў акругі, уключаных у спісы грамадзян, што маюць права ўдзельнічаць у выбарах.
Акруговая выбарчая камісія можа прызнаць выбары несапраўднымі, калі падчас выбараў альбо пры падліку галасоў, альбо пры падвядзенні вынікаў выбараў былі дапушчаны парушэнні патрабаванняў Выбарчага кодэкса, якія паўплывалі на вынікі выбараў. Скарга аб такім парушэнні падаецца кандыдатам у дэпутаты ў акруговую выбарчую камісію не пазней чым на наступны дзень пасля выбараў.
Пратакол паседжання акруговай камісіі падпісваецца старшынёй, намеснікам старшыні, сакратаром і сябрамі камісіі і неадкладна, але не пазней чым праз тры дні пасля заканчэння галасавання, асабіста старшынёй або намеснікам старшыні, або сакратаром камісіі перадаецца ў Цэнтральную камісію і ў органы, якія ўтварылі акруговую выбарчую камісію, для інфармацыі.
Да пратаколу, які накіроўваецца ў Цэнтральную камісію, прыкладаюцца, калі яны маюцца, адмысловыя меркаванні сяброў камісіі, заявы даверанных асоб кандыдатаў у дэпутаты і іншых асоб аб парушэннях патрабаванняў дзеючага Кодэкса і прынятыя па іх рашэнні акруговай выбарчай камісіі.

## 2. Паўнамоцтвы і дзеянні назіральнікаў

У адпаведнасці з арт.13 Выбарчага кодэкса, назіральнікі могуць прысутнічаць на паседжанні акруговай выбарчай камісіі. Пры гэтым назіральнік мае права атрымліваць інфармацыю толькі пра вынікі падліку галасоў і складанне пратакола аб выніках выбараў, а таксама знаёміцца з падпісаным пратаколам акруговай камісіі.
З гэтага вынікае, што назіральнік пры акруговай камісіі не мае рэальнай магчымасці кантраляваць перадачу пратаколаў участковых камісій у акруговую, а таксама не можа знаёміцца з іх зместам, калі на гэта не будзе дазволу старшыні камісіі.
Назіральніку пасля атрымання для азнаямлення выніковага пратакола неабходна або перанесці дадзеныя ў загадзя падрыхтаваны бланк, склаўшы пры гэтым акт аб тым, што копія адпавядае арыгіналу, або сфатаграфаваць пратакол, таксама склаўшы акт аб гэтым.

Атрыманне дадзеных аб выніках выбараў па акрузе важна для таго, каб можна было аператыўна параўнаць сумарныя вынікі з пратаколаў участковых камісій з пратаколам акруговай.

# Дадаткі

**<u>Дадатак 1</u>**

**КАЛЕНДАРНЫЙ ПЛАН**
организационных мероприятий по подготовке и проведению выборов депутатов Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь четвертого созыва

**С расчетом, что день выборов – 23 сентября 2012 года**

| НАИМЕНОВАНИЕ МЕРОПРИЯТИЯ | СРОК ИСПОЛНЕНИЯ | ИСПОЛНИТЕЛИ |
|---|---|---|
| **1. Образование избирательных округов** | | |
| Образование избирательных округов по выборам депутатов Палаты представителей | после назначения выборов | Центральная комиссия |
| Опубликование списка избирательных округов с указанием их наименований, номеров, границ, числа избирателей и мест нахождения окружных избирательных комиссий | не позднее чем на пятый день после назначения выборов | Центральная комиссия |
| **2. Образование избирательных комиссий по выборам депутатов Палаты представителей, участков для голосования. Списки граждан, имеющих право участвовать в выборах депутатов Палаты представителей** | | |
| Выдвижение представителей в состав окружных избирательных комиссий. Представление в органы, образующие комиссии, документов о выдвижении представителей в состав комиссий (не позднее чем за три дня до установленного срока образования комиссий) | со дня опубликования списка избирательных округов по 6 июля 2012 г. включительно | политические партии, другие республиканские общественные объединения, трудовые коллективы, граждане путем подачи заявлений |
| Образование окружных избирательных комиссий по выборам депутатов Палаты представителей (не позднее чем за 75 дней до выборов) | не позднее 9 июля 2012 г. включительно | президиумы областных, Минского городского Советов депутатов и областные, Минский городской исполнительные комитеты |
| Опубликование решений об образовании окружных избирательных комиссий с указанием их составов, места нахождения, номеров телефонов | в семидневный срок после образования комиссий (не позднее 16 июля 2012 г.) | органы, образовавшие комиссии |
| Проведение первых заседаний окружных избирательных комиссий | не позднее трех дней со дня образования комиссий (не позднее 12 июля 2012 г.) | органы, образовавшие комиссии |
| Образование участков для голосования (не позднее чем за 2 месяца до выборов) | не позднее 23 июля 2012 г. включительно | районные, городские исполнительные комитеты, местные администрации по согласованию с |

| | | |
|---|---|---|
| | | соответствующими окружными избирательными комиссиями |
| Опубликование решений о границах каждого участка для голосования с указанием места нахождения участковой избирательной комиссии и помещения для голосования | не позднее чем в десятидневный срок после образования участков для голосования (не позднее 2 августа 2012) | органы, образовавшие участки для голосования |
| Выдвижение представителей в состав участковых избирательных комиссий. Представление в органы, образующие комиссии, документов о выдвижении представителей в состав комиссий (не позднее чем за три дня до установленного срока образования комиссий) | не позднее 5 августа 2012 г. включительно | политические партии, другие общественные объединения, трудовые коллективы, граждане путем подачи заявлений |
| Образование участковых избирательных комиссий (не позднее чем за 45 дней до выборов) | не позднее 8 августа 2012 г. включительно | районные, городские исполнительные комитеты, местные администрации |
| Опубликование решений об образовании участковых избирательных комиссий с указанием их составов, места нахождения, номеров телефонов | в семидневный срок после образования комиссий (не позднее 15 августа 2012) | органы, образовавшие комиссии |
| Проведение первых заседаний участковых избирательных комиссий | не позднее трех дней со дня образования комиссий (не позднее 11 августа 2012) | органы, образовавшие комиссии |
| Передача городскими, поселковыми, сельскими исполнительными комитетами, местными администрациями, районными исполнительными комитетами (в городах и поселках городского типа, где не образованы городские и поселковые исполнительные комитеты) участковым избирательным комиссиям списков граждан, проживающих на территории соответствующих участков для голосования | после образования участковых избирательных комиссий | городские, поселковые, сельские исполнительные комитеты, местные администрации, районные исполнительные комитеты |
| Представление списков граждан, имеющих право участвовать в выборах, для ознакомления избирателям (за 15 дней до выборов) | не позднее 7 сентября 2012 г. включительно | участковые избирательные комиссии |

| 1. ***Выдвижение и регистрация кандидатов в депутаты Палаты представителей*** | | |
|---|---|---|
| Представление в Центральную комиссию списка зарегистрированных политических партий | не позднее чем через пять дней после назначения выборов | Министерство юстиции Республики Беларусь |
| Выдвижение кандидатов в депутаты Палаты представителей (начинается за 70 дней и заканчивается за 40 дней до выборов) | с 14 июля по 13 августа 2012 г. включительно | политические партии, трудовые коллективы, граждане путем сбора подписей |
| Представление списка членов инициативной группы и заявления о регистрации группы в соответствующую окружную избирательную комиссию (не позднее чем за 65 дней до выборов) | не позднее 19 июля 2012 г. включительно | лицо, имеющее намерение выдвинуться кандидатом в депутаты Палаты представителей |
| Регистрация инициативных групп | в пятидневный срок со дня подачи заявления о регистрации инициативной группы | окружные избирательные комиссии |
| Представление в окружные избирательные комиссии документов, необходимых для регистрации кандидатов в депутаты Палаты представителей (не позднее чем за 40 дней до выборов) | не позднее 13 августа 2012 г. включительно | лица, выдвинутые кандидатами в депутаты |
| Проверка соответствия порядка выдвижения кандидатов в депутаты Палаты представителей требованиям Избирательного кодекса Республики Беларусь | после представления в комиссию документов о выдвижении кандидата в депутаты до начала регистрации | окружные избирательные комиссии |
| Регистрация кандидатов в депутаты Палаты представителей (начинается за 40 дней и заканчивается за 30 дней до выборов) | с 13 по 23 августа 2012 г. включительно | окружные избирательные комиссии |
| Выдача кандидатам в депутаты Палаты представителей удостоверений о регистрации | в двухдневный срок после регистрации | окружные избирательные комиссии |
| Представление в Центральную комиссию протоколов о регистрации кандидатов в депутаты Палаты представителей | на следующий день после регистрации | окружные избирательные комиссии |
| Передача в средства массовой информации для опубликования сообщения о регистрации кандидатов в депутаты Палаты представителей | не позднее чем на четвертый день после регистрации кандидатов в депутаты | окружные избирательные комиссии |

| | | |
|---|---|---|
| Регистрация доверенных лиц кандидатов в депутаты Палаты представителей | в трехдневный срок с момента поступления заявления | окружные избирательные комиссии |
| **4. Предвыборная агитация (с момента регистрации кандидатов в депутаты по 22 сентября 2012 г. включительно)** | | |
| Представление в Центральную комиссию лимита времени для выступлений кандидатов в депутаты по государственному телевидению и радиовещанию, а также проведения теледебатов | в течение 10 дней после назначения выборов | Национальная государственная телерадиокомпания Республики Беларусь |
| Представление текстов предвыборных программ кандидатов в депутаты Палаты представителей в редакции газет (не позднее чем за 20 дней до выборов) | не позднее 2 сентября 2012 г. | кандидаты в депутаты Палаты представителей |
| Выделение на территории участков для голосования мест, наиболее посещаемых гражданами, для размещения агитационных печатных материалов | не позднее 23 августа 2012 г. | местные исполнительные и распорядительные органы по согласованию с окружными избирательными комиссиями |
| Изготовление общих плакатов с биографическими данными кандидатов в депутаты, баллотирующихся в одном избирательном округе, для размещения на участках для голосования и в других установленных местах | не позднее 8 сентября 2012 г. | окружные избирательные комиссии |
| Оформление на участках для голосования стендов с информационными материалами о кандидатах в депутаты (не позднее 14 дней до выборов) | не позднее 8 сентября 2012 г. | участковые избирательные комиссии |
| Определение мест для проведения в уведомительном порядке массовых мероприятий (собраний вне помещений, митингов, пикетирования), организуемых кандидатами в депутаты, их доверенными лицами | Не позднее 23 августа 2012 г. включительно | местные исполнительные, распорядительные органы по согласованию с окружными избирательными комиссиями |

| | | |
|---|---|---|
| **5. Финансирование выборов** | | |
| Открытие специального избирательного счета для формирования избирательного фонда | С момента регистрации кандидата в депутаты, представителя кандидата по финансовым вопросам | кандидаты в депутаты, их представители по финансовым вопросам |
| Предоставление финансовых отчетов кандидатов в депутаты в окружные избирательные комиссии (1-й отчет: не ранее чем за 15 дней до выборов и не позднее чем за 10 дней до выборов; итоговый отчет - не позднее чем в 5-дневный срок после завершения выборов ) | с 7 сентября до 12 сентября включительно; не позднее 28 сентября включительно | кандидаты в депутаты, их представители по финансовым вопросам |
| **6. Голосование, установление результатов голосования и подведение итогов выборов депутатов Палаты представителей** | | |
| Оповещение избирателей о времени и месте голосования (не позднее чем за 10 дней до выборов) | не позднее 12 сентября 2012 г. | участковые избирательные комиссии |
| Обеспечение участковых избирательных комиссий бюллетенями для голосования (не позднее чем за семь дней до выборов) | не позднее 15 сентября 2012 г. | окружные избирательные комиссии |
| Организация досрочного голосования (не ранее чем за пять дней до выборов) | с 18 по 22 сентября 2012 г. включительно | участковые избирательные комиссии |
| Представление протоколов о результатах голосования в соответствующие окружные избирательные комиссии и в органы, образовавшие комиссии, для информации | после подписания протокола | участковые избирательные комиссии |

**Дадатак 2**

**Узор пратакола**
**аб вылучэнні сябра грамадскага аб’яднаня ў якасці назіральніка ў акруговую (участаковую) выбарчую камісію**

ГРАМАДСКАЕ АБ’ЯДНАННЕ ___________________

ВЫНЯТКА З ПРАТАКОЛА

ад ____________ 2012 г. №____
г. ________

паседжання _______________________________ (назва кіруючага органа грамадскага аб’днання)

Старшыня __________________
Сакратар ______________________________
Усяго членаў кіруючага органа__________

Прысутнічалі ______ чалавек

Парадак дня:
1. Аб вылучэнні члена Грамадскага аб’яднання_______________ ______________________________(прозвішча, імя, імя па бацьку) у якасці назіральніка ў акруговай (выбарчы ўчастак №___) выбарчай камісіі ______________________ выбарчай акругі №____ па правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Схода Рэспублікі Беларусь.

СЛУХАЛІ:
1. ________________ аб вылучэнні члена Грамадскага аб’яднання_________________________________________________________________________ _________________ у якасці назіральніка ў акруговай (выбарчы ўчастак №____) выбарчай камісіі ___________ выбарчай акругі №_________ па правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Схода Рэспублікі Беларусь.

ВЫСТУПІЛІ:
______________, які прапанаваў вылучыць члена Грамадскага аб’яднання_________________ ___________________________ у якасці назіральніка ў акруговай (выбарчы участак №__) выбарчай камісіі _____________ выбарчай акругі №____ па правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Схода Рэспублікі Беларусь.

ВЫРАШЫЛІ:
1. У адпаведнасці з артыкулам 13 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, вылучыць члена Грамадскага аб’яднання ________________,19___ года нараджэння, які пражывае па адрасе___________, у якасці назіральніка ў акруговай (выбарчы ўчастак №___) выбарчай камісіі ________________ выбарчай акругі №________ па правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Схода Рэспублікі Беларусь.

Старшыня паседжання ______________

Сакратар пасяджэння ________________

**<u>Дадатак 3</u>**

**Узор заявы**
**аб вылучэнні назіральніка ў акруговую выбарчую камісію**
**шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў**

У акруговую выбарчую камісію № ________

па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў

Нацыянальнага Схода Рэспублікі Беларусь

ЗАЯВА.

Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія валодаюць выбарчым правам, і згодна з Выбарчым кодэксам (арт. 13), накіроўваем назіральнікам на паседжанні акруговай выбарчай камісіі выбарчай акругі №______________________ па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Схода Рэспублікі Беларусь

___________________________________________________________________

прозвішча, імя, імя па бацьку вылучаемай асобы

___________________________________________________________________

месца жыхарства вылучаемай асобы

| № | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Месца жыхарства | Дата подпіса | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

**<u>Дадатак 4</u>**

**Узор заявы
аб вылучэнні назіральніка ва ўчастковую выбарчую камісію
шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў**

Участковую камісію ўчастка для галасавання № ____

выбарчай акругі _____________

па выбарах дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў

Нацыянальнага Схода Рэспублікі Беларусь

ЗАЯВА.

Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія валодаюць выбарчым правам, і згодна з Выбарчым кодэксам (ч. 3 арт. 13), накіроўваем назіральнікам на паседжанні ўчастковай выбарчай камісіі № _________________(вобл., р-н., горад) па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Схода Рэспублікі Беларусь, а таксама на выбарчы участак падчас датэрміновага галасавання, галасавання ў дзень выбараў, падліку галасоў, устанаўлення вынікаў галасавання на выбарчым участку.

______________________________________________________________________

прозвішча, імя, імя па бацьку вылучаемай асобы

______________________________________________________________________

месца жыхарства вылучаемай асобы

| № | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Месца жыхарства | Дата подпіса | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

**<u>Дадатак 5</u>**

**Узор заявы назіральніка**
**аб парушэнні Выбарчага кодэкса на імя старшыні ўчастковай выбарчай камісіі**

Старшыні ўчастковай выбарчай камісіі №_____
______________________________
выбарчай акругі №____
па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў
Нацыянальнага Схода Рэспублікі Беларусь

ад назіральніка ________________________
______________________________________
______________________________________

ЗАЯВА
аб парушэнні Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

“_____”_____________ 2012 г. мною было выяўлена парушэнне артыкула _______ Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Парушэнне выявілася ў наступным______________________________________________________________________
________________________________________________________________________________
________________________________________________________________________________
________________________________________________________________________________
________________________________________________________________________________
________________________________________________________________________________
________________________________________________________________________________

У адпаведнасці з арт.49 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, прашу разгледзець маю заяву і паведаміць мне пісьмова аб прынятым Вамі рашэнні у вызначаным Законам парадку па адрасе_______________________________________________________________.

“___”____________2012 г. ________________
подпіс назіральніка

**<u>Дадатак 6</u>**

**Узор акта аб парушэнні выбарчага заканадаўства на выбарчым участку**

АКТ
аб парушэнні выбарчага заканадаўства

______________________________________________________________________________
(назва і нумар выбарчай акругі, участковай камісіі, месца знаходжання)

Назва парушэння, артыкул Кодэкса ________________________________

Прозвішча, імя, імя па бацьку назіральніка____________________________
Месца жыхарства__________________________________________________
Дата і месца парушэння_____________________________________________
Хто здзейсніў парушэнне____________________________________________
Апісанне парушэння_______________________________________________
_________________________________________________________________
_________________________________________________________________
_________________________________________________________________
_________________________________________________________________
_________________________________________________________________
_________________________________________________________________.

Каму быў перададзены Акт_________________________________________
(УВК, АВК, ЦВК, Пракуратура)

Сведкі___________________________________________________________

“__”__________ 2012г.

____________ ______________

____________ ______________

____________ ______________

**<u>Дадатак 7</u>**

**Узор заявы назіральніка аб парушэнні выбарчага заканадаўства на імя пракурора**

Пракурору________________
(горад, раён)

ад назіральніка ________________________
_____________________________________
_____________________________________

ЗАЯВА
аб парушэнні Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь

Я,_______________________________________________________________
(прозвішча, імя, імя па бацьку назіральніка)

паведамляю, што падчас падрыхтоўкі і правядзення выбараў на_______________ выбарчай акрузе №____ (выбарчам участку №___) па правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Схода Рэспублікі Беларусь, якая(які) месціца па адрасе_____________________________, былі дапушчаны сур’ёзныя парушэнні выбарчага заканадаўства і іншых актаў_______________________. Парушэнні выявілася ў наступным_____________________________________________________________________
_____________________________________________________________________________
_____________________________________________________________________________
_____________________________________________________________________________
_____________________________________________________________________________
_____________________________________________________________________________

Дадзеныя парушэнні паўплывалі на вынікі галасавання (умовы правядзення выбараў).

У адпаведнасці з арт. 49 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, Закона Рэспублікі Беларусь “Аб пракуратуры Рэспублікі Беларусь”

ПРАШУ:
1. даць прававую ацэнку выяўленым фактам;
2. прыняць меры пракурорскага рэагавання;
3. прыцягнуць віноўных асоб да адказнасці ў вызначаным законам парадку;
4. паведаміць мне пісьмова аб прынятым рашэнні у вызначаным Законам парадку па адрасе:_________________________________________________________________.

Да Заявы дадаецца:
1. акты і заявы аб парушэннях.

“___”____________2012 г.                                        __________________
(подпіс назіральніка)

